# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 41 (303) 18 — 24 кастрычніка 1997 г. КОШТ 3000 рублёў.

СПЕЦВЫПУСК





22-26 кастрычніка

# ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКІХ ФІЛЬМАЎ

Брэст '97

## КОНКУРСНАЯ ПРАГРАМА

**Студыя "Экафільм"**
● ДАЧКІ ЗОРАК
Мастацкія фільмы
● ШЭЛЬМА ● ЛУІЗА І ДЖЭК-ПОТ ● СЫН ЗА БАЦЬКУ
● БЕГ АД СМЕРЦІ ● НА ЧОРНЫХ ЛЯДАХ ● МАСКОЎСКАЯ СУВЯЗЬ ● МЕТАНОЯ
● ПТУШКІ БЕЗ ГНЁЗДАЎ ● У ЧАКАННІ ● З ПЕКЛА Ў ПЕКЛА
● СУПЕРМОЗГ ● ГУЛЬНЯ ЎЯЎЛЕННЯ

**Мультыплікацыйныя фільмы**
● БАЛАДА АБ ТРОХ АПЕЛЬСІНАХ ● ДЗЯЎЧЫНКА З ЗАПАЛКАМІ
● ЖЫЛО-БЫЛО ДРЭВА ● ЛАБІРЫНТ-5 ● З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!
● КАЗКІ ЛЕСУ ● РЭАКТЫЎНАЕ ПАРАСЯ-2

**Інфармацыйна-культурны цэнтр "Рай"**
● ЯК ЖЫЦЬ ЗАЎТРА?

**"Беларускі відэацэнтр"**
● ЧАРНОБЫЛЬ. ФАНТОМЫ ● КАЛОЖСКАЯ ЦАРКВА
● НА КОЖНЫ ГУК ЁСЦЬ РЭХА НА ЗЯМЛІ ● ДАКРАНАННЕ
● ШЭРАЕ, БЛАКІТНАЕ, КРЫХУ ЗЯЛЁНАГА...

**Студыя "Летапіс"**
● ЧАС МЯСЦОВЫ ● ДЗЕЦІ КАВАЛЕРА ДЖАМБАТЫСТЫ ПІРАНЕЗІ ● ЁСЦЬ КРАЙ АДЗІН...
● ОПЕРА ● СУЗОР'Е ● СЫМОН БУДНЫ. ПАЭМА ● ПЁТР МІРОНЫЧ

**Дакументальныя фільмы**
● КІНАРЭЖЫСЁР ВІКТАР ТУРАЎ
● ЗА КУШЛЯНАМІ СНЕГ
● ЕВАНГЕЛЛЕ АД МАМЫ
● ЗАБЫТЫЯ НЯБЁСЫ ● ІНШЫ

**Студыя "Кінапарк"**
● ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ВОСЕНЬ

**Вучэбныя і дыпломныя работы Беларускай акадэміі мастацтваў**
● ЧОРНАЯ СКРЫНЯ
● ЖУІР ● ЯМА
● ГІСТОРЫЯ ДВУХ ГУСАРАЎ
● ЯЎДОХА ● ЖАРЦІК

**Творчае аб'яднанне "Тэлефільм"**
● ГОРАД, НАМАЛЯВАНЫ ВОСЕНЬСКІМ СВЯТЛОМ ● КАЛІ МЯНЕ НЕ БУДЗЕ
● VIXI (ПРАЖЫТА) ● ШТО БЫЛО? ШТО ЁСЦЬ? ШТО БУДЗЕ?

Матэрыялы чытайце на стар. 4—12

## ПЕРШЫ!

Заснавальнікамі Першага нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў з'яўляюцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз кінематаграфістаў, Адміністрацыя г.Брэста, Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", Рэспубліканскае вытворча-творчае прадпрыемства "Беларускі відэацэнтр", Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія.

Мэты фестывалю: спрыяць папулярызацыі нацыянальнага кіно розных відаў; прадстаўленне беларускага кіно як унікальнай часткі нацыянальнага мастацтва; падтрымка творчых пошукаў кінематаграфістаў; выяўленне новых імёнаў таленавітых кінематаграфістаў; асэнсаванне беларускага кіно як віду мастацтва ў культурна-гістарычным кантэксце; садзейнічанне ўзнаўленню сістэмы сувязей паміж кінастудыяй "Беларусьфільм" і кінапракатам.

На фестывалі будзе паказана 62 фільмы розных відаў, створаных у Рэспубліцы Беларусь у 1995 — 1996 гг. Будуць прадстаўлены працы кінастудыі "Беларусьфільм" і фільмы недзяржаўных студый. Удзельнічаюць студыі "Кінапарк", "ВАЛІДЗІЯ", "Экафільм", "Таццяна" і "Кадр-2" Беларускага саюза кінематаграфістаў, тэлекампанія "Сваё кола", Інфармацыйна-культурны цэнтр "РАЙ".

Таксама будуць паказаны курсавыя работы студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў. Журы фестывалю ўзначальвае народны артыст Расіі, лаўрэат дзяржаўных прэмій, уладальнік прэміі "Оскар", кінарэжысёр Уладзімір Мяньшоў.

Журы вызначае пераможцаў фестывалю па наступных намінацыях:
Галоўны прыз "За лепшы фільм"
Прыз "За лепшую жаночую ролю"
Прыз "За лепшую мужчынскую ролю"
Прыз "За лепшую рэжысуру"
Прыз "За лепшы сцэнарый"
Прыз "За лепшае музычнае афармленне"
Прыз "За лепшае выяўленчае рашэнне"

Фестываль будзе праходзіць у самым вялікім кінатэатры Брэста — "Беларусь".

Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў будзе праходзіць раз на два гады ў адным з абласных цэнтраў Беларусі.

Рэпарцёрскі марафон

# СТЫПЕНДЫІ ПРЫСУДЖАЮЦЦА ТАЛЕНАВІТЫМ

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь паведамляе: "У 1994 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі заснаваны дзяржаўныя стыпендыі дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі ў галіне літаратуры і журналістыкі, музыкі і харэаграфіі, тэатра і кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры і дызайну. Стыпендыі прысуджаюцца пад выкананне пэўнага творчага праекта дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна, творчай моладзі ва ўзросце да 40 гадоў — у памеры 4-х мінімальных заработных плат штомесячна на працягу года."**

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб'яўляе прыём заявак ад кандыдатаў на атрыманне дзяржаўных стыпендый на 1998 год. Для разгляду камісіі па прысуджэнні стыпендый неабходна прадставіць наступныя дакументы:

1) заяву (прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас з указаннем паштовага індэкса, тэлефон, назва праекта, этапы ажыццяўлення, тэрміны завяршэння, дата, подпіс);

2) рэкамендацыю творчага саюза альбо рэкамендацыю за подпісам трох вядучых майстроў у дадзенай галіне дзейнасці;

3) творчую біяграфію;

4) спіс творчых прац і заслуг.

*Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве культуры да 1 лістапада 1997 года па адрасе: 220617, г. Мінск, пр. Машэрава, 11, аддзел музычных устаноў і цыркаў, каб. 316 б. Даведкі па тэлефоне 223-74-12.*

# МОЖНА ТОЛЬКІ ПАРАДАВАЦЦА

У цэнтральнай сядзібе калгаса імя Дзімітрава Драгічынскага раёна — у вёсцы Заверш'е — рэканструявалі клуб. У выніку ён пашырыўся: дадаліся яшчэ некалькі памяшканняў. Цяпер тут ёсць "гасцёўня", танцавальная зала, пакой сялянскага побыту. А галоўнае — паводле арыгінальнага праекта пабудавана вялікая канцэртная зала.

Будаўніцтва вялося гаспадарчым спосабам. Да 500 мільёнаў рублёў бюджэтных асігнаванняў калгас дадаў свае 1,5 мільярда рублёў. Такім чынам вяскоўцы атрымалі цудоўны культурны цэнтр, інтэр'ер якога афарміла мастацкая майстэрня раённага аддзела культуры.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**



# ДЗВЕ ТЭМЫ

У Доме прэсы ў канферэнц-зале адбылася сустрэча журналістаў, пісьменнікаў і прадстаўнікоў Беларускага Таварыства інвалідаў па зроку.

Старшыня ЦП БелТІЗ Анатоль Нятылькін і прэзідэнт параалімпійскага камітэта Ігар Жалязоўскі прадставілі прысутным спартсменаў-інвалідаў у розных відах спорту — Тамару Сівакову, Вольгу Шулякоўскую, Ігара Фартунава, Рэгіну Пашкоўскую, Кацярыну Крывашэй і інш. — міжнародных прызёраў. На сустрэчы казалі пра цяжкасці выхавання маладых спартсменаў. Сёння ў нашай краіне сем школ для слабавідушчых і, на жаль, яны не маюць магчымасці штогод праводзіць маладзёжныя спартакіяды, бо нестае на гэта грошай.

Урачыстай была другая частка канферэнцыі — усім прысутным прадэманстравалі дзве новыя кнігі — "Зоркі на далонях" і "Сто гадоў школе сляпых Беларусі". Першае выданне — гэта творы інвалідаў па зроку Мікалая Лук'янава, Гаўрыіла Шутэнкі, Мікалая Каралёва, Віктара Кудлачова ды інш. Усе тэксты кнігі надрукаваны адразу на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Другая кніга распавядае пра саміх інвалідаў. Уражвае не толькі змест выданняў, але і паліграфія.

Нягледзячы на фінансавыя праблемы, БелТІЗ грошай не пашкадаваў — кнігі ў цвёрдай вокладцы, на глянцаванай паперы, у колеры. Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч і пісьменнік Мікола Ермаловіч ад шчырага сэрца павіншавалі ўсіх з маленькім кніжным святам.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*У час сустрэчы ў Доме прэсы.*

# ЯНА ШМАТ ШТО ЎМЕЛА...



*Т.Хацановіч-Дарбінян. Аўтапартрэт. Акварэль.*

У казцы "Маленькі прынц" А.Сент-Экзюпеpы ёсць словы: "... пільнае адно толькі сэрца. Самае галоўнае вачыма не ўбачыш." Гэтая цытата можа стаць своеасаблівым эпіграфам да выставы памяці Таісы Хацановіч-Дарбінян, што адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Таленавітая мастачка і ў габелене, і ў батыку, і ў акварэльным жывапісе, яна адлюстроўвала толькі тое, што было роднасным ёй па духу, што "клалася" на яе сэрца. Тася ўмела рабіць шмат што — сама фарбавала, сама ткала, размалёўвала, стварала эскізы касцюмаў і драпіроўкі-заслоны, эталоны для вытворчасці ў тэхніцы рамізнага ткацтва, пісала акварэллю, малявала.

Яна шмат што ўмела. Два дзесяткі гадоў, штодня, яна шукала сваю "жар-птушку" — вяла бясконцыя, знясільваючыя пошукі ўласнай колерава-рытмічнай пластыкі і эстэтычнай нормы, кампазіцыйнай сістэмы, сваёй паэзіі і музыкі.

Яна быццам ставіла перад сабою фармальныя задачы, а ў выніку знайшла не толькі ўласную гармонію рытмаў і колераў, але і сябе як творцу, вызваленага ад стэрэатыпнага мыслення, ад звыклых схем ды шаблонаў.

На вобразным выражэнні яе твораў адбіваецца тое зліццё канкрэтнасці і дэкаратыўнай умоўнасці, хутка плыннага і адвечнага часу, без якіх немагчымае нацыянальнае светаўспрыняцце. І адначасова Тасіны творы вельмі сучасныя, жыццесцвярджальныя і дынамічныя.

Мастачка ніколі (за рэдкім выключэннем) не была задаволеная сваёй працай. Пастаянная незадаволенасць сабой была рысай яе неўтаймаванага характару. Магчыма, таму яна ніколі не выстаўляла свае акварэлі, такія паэтычныя, пяшчотныя, светлыя. Яе "Ірысы", "Рамонкі", "Бэз", "Сусана", "Рыбы", партрэты блізкіх і сяброў, каўказскія і балтыйскія экзерсісы я ўпершыню ўбачыў некалі ў яе. Убачыў — і быў уражаны!

Тасі ўжо два гады як няма сярод нас. Але засталіся яе чароўныя творы, дзе назаўжды ўвасобіліся яе душа і пільнае сэрца... Засталася памяць пра яе...

**Барыс КРЭПАК**



*Т.Хацановіч-Дарбінян. Балерыны. Габелен.*

# "ФРАНЦ ЛЕФОРТ-АНСАМБЛЬ" НАС ПРОСТА ПАКАРЫЎ

У памяшканні Таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі адбыўся канцэрт камернай музыкі. На працягу некалькіх гадзін слухачы былі проста загіпнатызаваныя віртуознай ігрой "Франц Лефорт-ансамбля". Вечная музыка Баха, Глінкі, Рахманінава, Брамса быццам бы нараджалася ўпершыню. Наведалі Мінск музыканты дзякуючы культурным сувязям паміж Усерасійскай супольнасцю немцаў і беларускай супольнасцю немцаў "Wiedergeburt". Гэтак адзначалі на Беларусі Нацыянальны дзень нямецкага адзінства — 3 кастрычніка. Усе прысутныя ад шчырага сэрца віталі музыкантаў — Віктара Шпілера, Аляксандра Блока, Віталя Хандраса, Віктара Глебава і інш.

**Канцэрт слухаў**
**Зміцер ВОЛКАЎ**

### *Удакладненне*

У мінулым нумары па тэхнічных прычынах з палос 8 і 9 знік загаловак "Брава, Турыду! Брава, Пелагейчанка!" у матэрыяле Алены Саламахі. Просім прабачэння ў аўтара і чытачоў.

ПЫТАННЕ РУБАМ

# КАЛІ ПЕРАСТАНЕМ ГУБЛЯЦЬ?

Вестка гэтая не сталася нечаканасцю. Яшчэ па вясне Юрый Гільдзюк — мастацкі кіраўнік філармоніі — у гаворцы з карэспандэнтам нашай газеты выказваў заклапочанасць адносна нізкіх заробкаў музыкантаў сімфанічнага аркестра. І вось, на пачатку новага — юбілейнага! — сезона Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пакінулі 9 музыкантаў, яны знайшлі лепшую працу ў замежжы. Само па сабе ўзнікае пытанне: калі ж мы перастанем губляць у нашай культуры, у тым ліку і музычнай? Відаць, час гэты надыдзе тады, калі на матэрыяльнае становішча яе прадстаўнікоў звернуць належную ўвагу нашыя ўлады. А пакуль што на рэпетыцыях аркестраў зусім не па нотах "спявае ў жываце" гаротніка-музыканта.

**А.Р.**

# РАЗАСЛАНА ДЭПУТАТАМ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА

"Чарнобыль: навакольнае асяроддзе, здароўе і іх стасункі з правамі асобы" — акурат так называецца кніга, якая выйшла ў Вене і прэзентацыя якой адбылася на пачатку кастрычніка ў памяшканні Беларускага фонду міру. Арганізавалі вечарыну Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" (старшыня Марыя Міцкевіч), Беларускі Інстытут радыяцыйнай бяспекі "Белрад", Беларускі камітэт "Дзеці Чарнобыля", Беларускі фонд міру. Уступнае слова прамаўляла Ружа Ганчарова. Прадстаўлялі кнігу яе рэдактар, віцэ-прэзідэнт Сусветнага бюро міру Саланж Фернэ (Францыя) і Мішэль Фернэ — прафесар, доктар, сябра Рады міжнароднага Таварыства "Лекары за сацыяльную адказнасць", "Лекары за прадухіленне ядзернай вайны" (Швейцарыя). У кнізе змешчаны матэрыялы Пастаяннага Народнага трыбуналу, пасяджэнне якога адбылося 12 — 15 красавіка 1996 г. у Вене, на якім было асуджана выкарыстанне ядзернай энергіі ў камерцыйных мэтах і разгледжаны наступствы аварыі на ЧАЭС. Кніга пабачыла свет на нямецкай, англійскай, французскай мовах, зараз выдаецца ў перакладзе на расійскую. Яна ўжо разаслана дэпутатам Еўрапарламента ўсіх еўрапейскіх краін. Пры афармленні кнігі выкарыстаны фотаработы Анатоля Клешчука, адна з іх вынесена на вокладку. На фотаздымку — беларуская дзяўчынка Насця, якая пацярпела ад наступстваў Чарнобыля...

**А.Р.**

# ФРАНЦУЗСКАЕ КІНО НА ЭКРАНАХ МІНСКА

Міжнародны Канскі кінафестываль, 50-гадовы юбілей якога святкавалі сёлета ў траўні на Лазурным беразе ў Францыі, пацвярджаў на працягу ўсёй сваёй гісторыі, што з'яўляецца адным з найважнейшых у міжнародным кінематографе. Захоўваючы сваю вядучую ролю і высокі рэйтынг, Канскі фестываль спрыяў распаўсюджванню пэўнай ідэі ў кінематографе — ён з'яўляецца адначасова высокамастацкім і відовішчным дзеяннем, якое называецца цяпер "сёмым мастацтвам".

Прымаючы штогод самае лепшае з сусветнага кінематографа, фестываль кожны раз сцвярджаў, што французскае кіно можа спаборнічаць з іншымі выдатнымі фільмамі.

Праграма, якую будуць мець магчымасць убачыць і ацаніць мінскія аматары кіно, уяўляе з сябе "дванаццаць дыяментаў у кароне le cinéma français", калі верыць меркаванню дырэктара Канскага кінафестывалю пана Жыля Жыкоба, які асабіста складаў гэтую рэтраспектыву. Гэтыя дванаццаць кінастужак, паказаныя ў Кане на працягу ягонай 50-гадовай гісторыі, з'яўляюцца сёння кінакласікай, адлюстроўваючы тысячу і адзін бок і багацце французскага кіно.

Аднолькава паспяхова ў праграме прадстаўленыя ўсе жанры і ўсе стылі, якія пераконваюць нас, што "Вакацыі месье Юло" — гэта фільм, дзе прыхаваны вялікія праявы гумару, што "Бітва на рэйках" — даволі змрочны і вельмі насычаны фільм, які рашуча падводзіць рысу пад патрыятычнымі пачуццямі, і што, магчыма, каханне чакала менавіта таго моманту, калі бессмяротным гімнам яму ціхенька будзе прапетая знакамітая "шаба-да-ба-да" з фільма "Мужчына і жанчына"...

Амбасада Францыі ў Беларусі і "Кінаклуб" жадаюць усім, хто наведае вялікую тэатральную залу Палаца культуры прафсаюзаў з 13 па 29 кастрычніка, атрымаць незабыўныя ўражанні ад прагляду стужак, дзе вымысел праплецены з асабістымі перажываннямі іхніх стваральнікаў і дзе прысутнічаюць такія неспасцігальныя французскі дух і французскі шарм, у якія закаханы многія нашы суайчыннікі.

**Святлана САЎЧЫК**

# ПАДАРОЖЖА З ЦЫМБАЛАМІ, альбо ШТО РАБІЦЬ З СУСВЕТНЫМ УЗРОЎНЕМ?

### НАС ШМАТ, І ЦЯЛЬНЯШКІ СТАРЫЯ НАМ ЦЕСНЫЯ

"Здароўя вам і цымбал", — сказаў ён і махнуў рукой: IV Сусветны Кангрэс цымбалістаў у Магілёве распачаўся. Бадай, у першы дзень, калі ішла беларуская праграма, пажаданні рэктара Беларускай акадэміі музыкі і галоўнага дырыжора Дзяржаўнага аркестра народных інструментаў імя І.Жыновіча Міхася Казінца былі ўлічаны. Цымбал на сцэне — няма куды ставіць, і здароўя ў тых, хто на іх іграе, мяркуючы па бадзёрым выглядзе, таксама больш чым дастаткова. Выступленне беларускай дэлегацыі ўвогуле стварала нейкі гіпнатычна-жыццярадасны эфект, душэўнае здароўе і аптымізм ляцелі ў залу, уражваючы слухачоў, якія сустракалі кожны нумар канцэрта ўзнёслымі апладысментамі і крыкамі.

Ігралі сапраўды добра: на гэтае мерапрыемства былі кінуты лепшыя цымбальныя сілы краіны, і нашыя дзяўчынкі і дзяўчата мужна, патэтычна і бясстрашна абаранялі гонар Радзімы. Сабраныя разам, яны ствараілі ўражанне несумненна вельмі моцнай прафесійнай школы, якой уласцівыя тэхнічнасць і артыстызм. Ды і стылёвы спектр быў шырокім, таму ўдзельнікам Кангрэса (а сабраліся яны з трынаццаці краін) было што паслухаць. Прыгожыя беларускія мелодыі, поўныя паветра, тугі і пяшчоты, кранаілі душу; ажыўляла мноства танцавальных рытмаў, асабліва — увядзенне элементаў джаза; прымусіла думаць філасофска-лірычнае музычнае палатно У.Кур'яна — Канцэрт для цымбал з аркестрам, дзе салíравала-разважала Ларыса Рыдлеўская. "Гваздом" беларускай праграмы былі, безумоўна, шумавыя эфекты, жарты і гукавыўлечныя знаходкі, што спарадзіла фантазія таго ж У.Кур'яна. Асабліва забаўна выглядала выкананне дуэтам, калі цымбалісты ўдвух ігралі на адным інструменце, лоўка маніпулюючы мелադычнай лініяй, пры гэтым прыгрукваючы, прыхлопваючы і прыгаворваючы.

Замежным гасцям усё гэта, безумоўна, вельмі спадабалася, яны, мабыць, падумалі: "Якія ўзнёслыя сёння беларускія музыканты, якія непрадказальныя!" Не ведаюць яны, наіўныя, што гэта — частка нашага нацыянальнага стылю: іграць заўсёды нібыта ў апошні раз, заўсёды — грудзьмі на амбразуру, пераканальна, сцвярджальна. Яны ж гэта бачылі адначы і не маглі сабе ўявіць, як маркотна гэта чуць у дзесяты раз. А на дадзены момант усё ўбачанае — не толькі самае лепшае, чым мы валодаем у галіне цымбальнай музыкі, гэта проста ўсё! Гэта нашая цымбальная Выстава Дасягненняў Народнага Мастацтва, і даўно ўжо наспеў час ісці далей, але куды?

### УСЁ-ТАКІ СУСВЕТНЫ

Самі камунікабельныя і заўсёды ўсмешлівыя, замежныя госці і не думалі, якія сумныя развагі выклікалі яны ў некаторых з прысутных. Аднак падчас іх выступленняў ні пра што такое і не ўзгадвалася: перад намі ўпершыню адчынілася вакно ў шырокі цымбальны свет, і колькі ж усяго там знайшлося!

...Незразумелая нам рыска амерыканскага жыцця. Генрых Форд, вытворца знакамітых аўтамабіляў, не мог пераносіць джаз і сучасныя стылі наогул, але іграў на скрыпцы і абагаўляў старую музыку, для праслухоўвання якой наняў цэлы аркестр. Адным з удзельнікаў калектыву быў цыганскі цымбаліст, якога Форд вельмі шанаваў і таму падтрымліваў развіццё цымбальнага мастацтва. З музыкантаў, якія ігралі ў ягоным аркестры, складваліся цэлыя дынастыі, і ўсім ён дапамагаў. Такім чынам аўтамабільны магнат стаў сапраўдным мецэнатам у галіне цымбальнага мастацтва.

А цяпер у ЗША — больш за сотню майстроў па вырабе цымбалаў, каля дваццаці клубаў, штогод наладжваюцца трыста цымбальных фестываляў, існуе мноства кампаній гуказапісу і музычных выдавецтваў, што займаюцца праблемамі цымбал... Распавёўшы пра гэта і шмат пра што іншае, амерыканскі госць — даследчык, лектар і выканаўца Пол Гіфард сеў за свой інструмент і ажыўлена сыграў некалькі танцаў розных часоў — ад чардаша да факстрота.

... У Вялікабрытаніі цяпер існуе толькі адзін клуб — "Узорны клуб цымбалістаў", бо адраджэнне цікавасці да інструмента пачалося толькі нядаўна, пасля працяглага забыцця. Затое ёсць шмат майстроў і хапае энтузіястаў, двое з якіх і наведалі Кангрэс у Магілёве. Састарэлыя англічанкі, якія займаюцца педагагічнай, кампазітарскай і арганізатарскай дзейнасцю, кранальна распавядалі пра цымбальныя традыцыі сваёй краіны, ньграючы пры гэтым немудрагелістыя мелодыі. Адна са слухачак, натхнёная пачутым, нават патанчыла трошкі пад гарачыя апладысменты публікі.

... Сталага веку аўстралійка Джыліян Алкок аказалася сапраўднай "піянеркай" у сваёй справе. Яшчэ да таго, як яна ў 70-я гады пабачыла на малюнку ў кнізе англійскія цымбалы, у сябе ў Аўстраліі яна выкарыстоўвала інструменты з іншых краін. І вось паводле малюнкаў Джыліян паспрабавала зрабіць свае першыя цымбалы, з якімі і пайшла іграць на вуліцу. Людзям гэта спадабалася, і жанчына пачала атрымліваць замовы на новыя экземпляры, а кампазітары нават пачалі пісаць для іх музыку. Цяпер Джыліян Алкок — самая вядомая ў Аўстраліі майстрыха па вырабе цымбал, яна падарожнічае па ўсім свеце, іграючы і вывучаючы музычны вопыт іншых краін.

... Было шмат дзяцей: чэшская і малдаўская дэлегацыі складаліся выключна з іх, але найбольшае ўражанне зрабілі кітайцы. Юныя 5 — 11-гадовыя ствараэнні, узгадаваныя на медытацыі і самазасяроджанні, "уздымалі" буйныя філасофскія палотны, дэманструючы нечуваную сур'ёзнасць і засяроджанасць на змесце твораў (як і большасць замежнікаў, яны выступалі solo). А іхняя "выхавацелька" Лі Юнінь села потым за свой янгчын (кітайскія цымбалы) і выліла на залу такія рулады гукаў і вадаспады гукавых кропель, што ўсе проста застылі. Яна, да таго ж, аказалася прафесарам, магістрам цымбальнага мастацтва аддзялення традыцыйных музычных інструментаў пры Цэнтральнай Кансерваторыі музыкі. Хаця трымалася сціпла.

Затое настойліва патрабаваў увагі да сябе швейцарац Фрэдэрык Цвайг, які, згодна з гучнай заявай у прэс-цэнтры, "дасягнуў гармоніі ў спалучэнні голасу і цымбал". З'яўляючыся інжынерам-матэрыязнаўцам паводле прафесіі, ён вывучаў афрыканскую музыку, а жывучы сярод індзейцаў Паўночнай Амерыкі — іхнія абрадавыя песні, займаўся пастаноўкай голасу. Усё гэта, адмыслова праламляючыся ў свядомасці Фрэдэрыка, вылілася ў даволі забаўнае мяшэцыраванне — іншы раз усходне-тужлівае, іншы раз пакутлівае, у стылі еўрапейскага гарадскога рамансa. Раскошлівы, вялікага дыяпазону, з дзвюма педалямі і кантрастным гучаннем у розных рэгістрах, інструмент выкарыстоўваўся пры гэтым вельмі сціпла, на жаль. Затое залішнім здаваўся размоўны элемент. А другі швейцарац, Іаганес Фукс, іграў больш, а размаўляў — меней, хаця і аказаўся адным са стваральнікаў школы апенцэльскіх цымбал. Вось, як здараецца часам...

... Значна больш падставаў лічыць сябе шоўменам было ў галандца Міхаэля Мантца. Ён, праўда, паводле прафесіі — адвакат, але гэта, прынамсі, апраўдвае тое, што ён такі гаваркі. Як сумленны чалавек Міхаэль прызнаўся, што сваіх цымбал і музыкі для іх у Галандыі няма, а таму ён выконвае музыку ў венгерскіх, румынскім і цыганскім стылях, адначасова растлумачваючы адрознасць паміж імі. Зала рэагавала на яго гучнымі авацыямі, бо галандзец быў вельмі тэмпераментным імправізатарам. Магчыма, у ягонай ігры не ставала прафесіяналізму, але ж тэмпы браліся такія, што мову аднімала.

... А вось пра каго хочацца гаварыць без ценю ўсмешкі, вось дзе стрыманая страсць зачароўвала больш за самыя шчырыя парывы, вось дзе каласальны прафесіяналізм спалучаўся з невераагоднай віртуознасцю. І ўсё гэта — пра венгра Калмана Балага. Ён выконваў венгерскую і румынскую народную музыку, уласныя творы і ў заключным вар'яцкім чардашы павялічваў хуткасць да такой мяжы, якая ўжо з цяжкасцю ўспрымалася вухам. І тут ужо багаты венгерскі інструмент апынуўся ў надзейных руках: Калман выкарыстоўваў і шырокі дыяпазон гучання, і вібрацыю масіўнага драўлянага корпуса, і вартасці больш лёгкіх, чым у іншых выканаўцаў, кійкоў.

... А партнёршай Калмана ў венгерскай праграме была ягоная зямлячка Вікторыя Херэнчар. Гэтае імя добра вядомае ўсім, хто мае хоць якое-небудзь уяўленне пра цымбалы, бо Вікторыя — прэзідэнт Сусветнай Асацыяцыі цымбалістаў, самая ганаровая госця Кангрэса. Нам, безумоўна, цяжка зразумець, але гэтая прывабная жанчына "ў чыне" яшчэ і добры, прафесійны музыкант, яна — салістка Венгерскай Оперы і Нацыянальнага радыё, а таксама выкладчыца ігры на цымбалах у Будапешцкай кансерваторыі. Здараецца ж так: усё і — адразу...

### ТРЭБА БЕГЧЫ, АЛЕ НЕ ВЕДАЮ — КУДЫ...

Адзін з канцэртаў Кагрэса меў назву "Імправізацыя і джаз". Канцэртам ён стаў, праўда, недзе бліжэй да заканчэння. Групы музыкантаў, якія спантанна сабраліся на сцэне, моцна пазабавілі публіку, але "ладнай песні" так ніхто з іх і не наладзіў, а да джаза і наогул справа не дайшла. Нарэшце, выйшлі нашы дзяўчаты і з пераможнай усмешкай на вуснах выправілі складанае становішча гасцей, выканаўшы штосьці з добра адпрацаванага і пакінуўшы ў магілёўскай публікі ўражанне перавагі "нашых" над "іхнімі". Магілеўчане імі ганарыліся... Але ж ганарыцца не было чым: імправізацыі не адбылося. І не магло быць. У венграў альбо, скажам, кітайцаў імправізацыя закладзеная ў нацыянальным мастацтве, яны гэта пастаянна скарыстоўваюць у сваім выканальніцтве. Беларускія ж выканаўцы, якія прытрымліваюцца акадэмічнай выканальніцкай школы, не імправізуюць ніколі і ні пры якіх умовах, і гэта, мабыць, адна з нашых самых вялікіх трагедый. Нічога непапраўнага ў гэтай сітуацыі няма, бо імправізацыя — па сутнасці, праява індывідуальнага таленту. Тут варта толькі пажадаць. Можа ж Ларыса Рыдлеўская імправізаваць у спецыяльна выдзеленай для гэтага кадэнцыі Канцэрта У.Кур'яна. Але менавіта — у спецыяльна выдзеленай. Каб зварухнуць з месца гэты цяжкі камень, трэба менавіта з гэтай мэтай выдзеліць навучальны час, знайсці педагогаў і развіць у нашых выканаўцаў кампазітарскае мысленне.

Напэўна, цяжка было б з выбарам стылю для імправізацыі. Але, скажам, джазавы напрамак даволі цікава акрэслены ў блюзе, сыграным Кацяй Анохінай — некаторыя штрыхі і фразіроўку ўжо можна складаць у джазавы "куфэрак". Як, дарэчы, і кампазіцыйную пабудову песні "Я табун сцерагу" ў аранжыроўцы А.Шпянёва, якую выканала Юлія Кузьменка. Усё гэта трэба запомніць і выкаліцца, нарэшце, ад чужых тэкстаў. Інакш не ўяўляю, у які яшчэ бок могуць зварухнуцца нашы таленавітыя цымбалісты з іхнімі інструментамі, што не маюць дыяпазону венгерскіх і далікатнасці нямецкіх, а таксама пры непарушным гадамі рэпертуары...

(Заканчэнне на стар. 16).

# ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ПОГЛЯД НА "КІНОШНЫЯ" ПРАБЛЕМЫ

***У сувязі з І Нацыянальным фестывалем кіно і аб лёсе беларускага кінематографа з галоўным спецыялістам па ігравым кіно кінастудыі "Беларусьфільм", кінакрытыкам Нінай ФРАЛЬЦОВАЙ гутарыць наш спецыяльны карэспандэнт.***

**— У чым будзе заключацца ваша дзейнасць на І Нацыянальным фестывалі кіно? Клопат пра далейшы лёс кінамастацтва, якое, калі не хавацца ад фактаў, перажывае ва ўсім свеце не лепшыя часы, адлюстроўваецца ва ўсё большай колькасці фестываляў. Напэўна, такім чынам кіно, ужо страчваючы сваю эстэтычную фенаменальнасць, імкнецца прыцягнуць да сябе грамадскую думку, каб застацца ў сваёй гістарычнай культурнай "нішы".**

— Наш кінематограф у гэтым сэнсе не з'яўляецца выключэннем. Калі гаварыць сур'ёзна, дык гэта, можа, той самы момант, дзе мы сутыкаемся з пэўнай еўрапейскай праблематыкай. Шкада, дзе тут у нас той самы "цэнтр Еўропы", ці не варта зазірнуць на экран, каб убачыць, што ў галіне мастацтва кіно мы хварэем адной з Еўропай хваробай.

Але як бы там ні было, Першы нацыянальны кінафэст адбудзецца. Ён закліканы па-свойму працягнуць традыцыю сувязі нашага фільма з гледачамі. Не сакрэт, што праблема малых аб'ёмаў кінавытворчасці сёння вядомая болей, чым самі фільмы. Але ж пры тым аўдыторыя тэлебачання, напрыклад, мае перыядычна магчымасць убачыць беларускі фільм па тэлевізійных каналах, як гэта нядаўна здарылася з карцінай "Сын за бацьку" М.Яроменкі-малодшага. Болей за тое. Дакументальныя стужкі студыі "Летапіс" сталі пастаяннымі ў праграмах Беларускага тэлебачання.

Разам з тым фестываль у Брэсце павінен даць не толькі магчымасць лішні раз упэўніцца ў тым, што "Беларусьфільм" усё ж такі пераадолеў пэўны бар'ер крызіснасці і працягвае ствараць тое, для чаго, уласна, існуе.

Тэндэнцыя станаўлення так званага прадзюсерскага кіно не абмінула і нас. Яна па-рознаму ацэньваецца прафесіяналамі кінастудыі. Адны бачаць у сумеснай прадукцыі з амерыканцам М.Голанам, немцам А.Браўнерам своеасаблівы выхад нашага прафесійнага ўмення рабіць фільм на сучасны ўзровень — хай сабе яшчэ не мастацтва, але ўжо камунікацыя. Іншыя не стамляюцца папракаць прыхільнікаў гэтага пункта гледжання ў здрадніцтве высокім ідэалам нацыянальнага кшталту.

Было б пра што спрачацца! У тым сэнсе, у якім тыя ж мастацкія фільмы, створаныя людзьмі з гучнымі імёнамі, пакуль яшчэ не заваявалі славы сваім стваральнікам, скажам, на апошнім Маскоўскім Міжнародным фестывалі. А зусім, як кажуць, наадварот.

Праблемы, думкі, абмеркаванні. Брэсцкі фестываль, здаецца, дасць пэўную надзею, што ў нашага кіно ёсць будучыня, якая павінна стаць прадметам хутчэй дзейнасці, чым "разборак" як з нядаўнім мінулым, так і з асобнымі персонамі.

**— І якія, на вашу думку, перспектывы ў беларускага кіно, ці дасць фестываль аб гэтым уяўленне?**

— Раней на кінастудыі была добрая і эфектыўная традыцыя — кожны год кінастудыя праводзіла прагляд фільмаў, якія былі зроблены за каляндарны год. Гэты агляд-конкурс праводзіўся па прафесіях і па накірунках кіно: дакументальнае, мастацкае, анімацыйнае. Прапаноўваліся карціны, у якіх была бачная высокапрафесійная работа і майстэрства: рэжысёраў, аператараў, драматургаў, мастакоў-пастаноўшчыкаў, мастакоў па касцюмах, па грыме і г.д. З цягам часу, калі зменшыліся аб'ёмы вытворчасці фільмаў і ўзніклі значныя матэрыяльныя цяжкасці, мы перасталі гэта рабіць. Была такая арганізацыйная паўза, калі трэба было вызначыцца, у якім пункце прасторы мы знаходзімся і навошта наогул патрэбны нам кінематограф. Але зараз, нібыта, мы вызначыліся. Кінастудыя не разбурана, кінематограф захаваўся і павінен быць у рэспубліцы — гэта адназначна. І падтрымка дзяржавы сведчыць: мы будзем жыць.

**— У якім жа накірунку будзе развівацца наш кінематограф?**

— Я дазволю сабе буйнамаштабныя вывады. Справа ў тым, што з перабудовай усе краіны былога СССР, і Беларусь у тым ліку, вымушана ўступілі ў крызіс культурнай мадэрнізацыі. Натуральна, прычынай таму была ўся пераструктурызацыя грамадства, эканомікі, улады. Гэта тое, што мы называем пераходным перыядам у культуры, калі пад яго разумець увесь кантэкст, у якім мы існуем. Такія працэсы заўсёды выклікаюць крытычныя станы. Што такое перабудова? Была пастаўлена мэта ўсё хутка мадэрнізаваць. Але калі такая мэта захоплівае культурны кантэкст, увесь лад жыцця і, значыць, нашу свядомасць, таму што яна з гэтага вынікае, — то непазбежна наступае крызіс самой культуры, як бы ядра гэтага кантэксту. І такі крызіс культурнай мадэрнізацыі перажываецца, як правіла, развітымі краінамі, якія рана ці позна становяцца перад бар'ерам і не могуць развівацца далей. Пагдядзіце, што зараз робіцца з сусветным кінематографам — гэта яскравы прыклад. Таму што так існаваць, як раней, ён не можа, ён занадта распаўсюджаны, перагружаны сваёй масавасцю, тыражаваннем, капіраваннем, дададзім да гэтага тэлебачанне, якое імгненна ўсё гэта распаўсюджвае і прагльнае, бо яно як топка, што з'ядае ўсё. Людзі, якія гэта глядзяць, не паспяваюць усё пераварыць. У такім стане знаходзіцца мастак сёння. Кінастудыя завалена ідэямі, сцэнарыямі, а калі гэта з'яўляецца на экране — мы ў разгубленасці, бо чалавек так добра ўсё напісаў, так прыгожа расказаў. А вось чагосьці не хапае. Бо геніяў сёння няма, геніі былі на першым этапе. Яны ўсё зрабілі, каб кіно было мастацтвам, яно атрымала сваю мову, сваё распаўсюджанне, вядомасць. Зараз стварыць нешта новае ў кіно вельмі цяжка, гэта ўсё трэба пераварыць, творцы трэба пагадзіцца, што ён не адзінае свяціла, вакол якога круціцца сусвет. А ён ахоплены эгацэнтрызмам, старая псіхалогія яшчэ дзейнічае.

Нам зараз вельмі цяжка. Практычна гэта выяўляецца ў тым, што ў нас састарылася пакаленне кінематаграфістаў, якое трымала на сваіх плячах беларускі кінематограф, усю пасляваенную гісторыю, таму што як мастацтва беларускае кіно адбылося ў канцы 50-х і далей у 60 — 70-я гады. Ужо няма нашага паважанага Віктара Цімафеевіча Турава, побач з ім былі паплечнікі, якім ужо за 50. Цяжка тым, каго мы ўвесь час называлі саракагадовымі, але гэта ўжо пяцідзесяцігадовыя мужы, ужо нават і дзяды. А яшчэ цяжэй моладзі, якая ў кіно робіць першыя крокі.

Гэта адзін бок медаля. Праблема яшчэ і ў тым, што мы не разабраліся, што ж адбылося ў кінематографе за апошнія дваццаць пяць гадоў. Мы ўвесь час гаворым: маскультура, і заўсёды з адмоўным значэннем. Але ў гісторыі культуры ўва ўсе часы былі такія моманты, калі гэтая маскультура, ці так званая нізкая культура, рана ці позна праяўляла сябе ў якасным значэнні, адбываўся зрух з колькасці ў якасць. Высокая культура развівалася побач з нізкай культурай. Межы размываліся, і тое, што напрацоўвалася нізкай культурай, узрыўной хваляй уваходзіла ў высокую культуру, мяняла нейкія яе эталоны. Калі ў мастацкай культуры на гэта патрабаваліся цэлыя эпохі, то ў культуры кінематографа гэта адбывалася вельмі імкліва. Кінематограф існуе ўсяго сто гадоў, а кінематограф як мастацтва і таго меней — прыкладна семдзесят. І на працягу гэтых сямідзесяці гадоў кіно паднялося, пакінуўшы ўнізе масавае. І гэтыя дзве плыні аўтаномна рухаліся, і мы не заўважылі, калі пачалося ўзаемапранікненне. Калі з масавага пайшлі нейкія карысныя токі і верхні слой пачаў мяняцца. Калі мы гаворым, што нам патрэбныя відовішчныя фільмы, якія б задавальнялі гледача, мы гаворым: там, унізе, усё наспела, а мы гэта яшчэ не асэнсавалі. Мы сёння глядзім фільмы Таркоўскага, Антаніёні, Феліні, мы іх разумеем, а чвэрць стагоддзя таму выходзілі фільмы і нават спецыялісты хапаліся за галовы і не разумелі іх. Сёння мы павінны асэнсаваць, што ствараць фільмы па прынцыпе: "Я мастак, і я буду сябе выражаць", недастаткова, трэба ўсвядоміць, ці будзе гэтае самавыражэнне карыстацца попытам. Гэта эканамічны тэрмін, таварны, але мы гандлюем інтэлектам. Прыклад — амерыканцы, яны зрабілі з кіно інтэлектуальную тэхналогію, інтэлектуальную індустрыю. Эканамічны стымул падштурхоўвае іх вырашаць усе праблемы практычна. А мы ўсё яшчэ разважаем аб элітарным кінематографе, аб масавым, карыстаемся састарэлай тэрміналогіяй, а рэвалюцыя ўжо адбылася. Мы павінны задумацца над прынцыпамі працы ў гэтых новых каштоўнасных рамках. Станам беларускага кінематографа я незадаволена, але адчуваю яго патэнцыял, адчуваю, што з гэтымі людзьмі можна шмат чаго зрабіць.



**Гутарыў Міхась БАШУРА**




# ЧЫМСЬЦІ ПАРАДУЕ, НЕЧЫМ НЕ ЗАДАВОЛІЦЬ...

Прыемная навіна: на Брэстчыне адбудзецца фестываль фільмаў розных відаў і жанраў. Значыць, не спынілася кінавытворчасць пад цяжарам эканамічных нягод і сацыяльных пераўтварэнняў. Нельга не вітаць такую акцыю тых арганізацый, што нясуць адказнасць за стан і перспектывы кінематографа, скіраваную на прапаганду збудаванага "дома". Наша кіно заўсёды было гуманнае, ашчаднае да чалавека, традыцыя гэтая не перарываецца, хаця і не заўсёды мае дастатковую вобразную самакаштоўнасць.

Фестываль не толькі свята, але і магчымасць для кінематаграфістаў выйсці на масавую аўдыторыю, якой многія з іх зараз пазбаўлены, бо творы іх ва ўмовах камерцыйных відовішчаў рэдка калі трапляюць у пракат. Строгі да сябе творца можа з кожнай, нават святочнай сустрэчы атрымаць штуршок для творчага пошуку, вынік якога быў бы цікавы не толькі спонсарам, але і звычайна палітызаваным аргкамітэтам прэстыжных кінафестываляў.

Разам з тым, трэба мець на ўвазе, што рэакцыя гледачоў часта зусім не адпаведная сапраўднай мастацкай каштоўнасці фільма. Кінафестываль на Брэстчыне аб'яўлены нацыянальным. Гэта дае падставу меркаваць, што ў яго праграме галоўнае месца зоймуць стужкі, якія маюць непасрэднае дачыненне да беларускага кіно, нацыянальнай культуры — сюжэтамі, праблемамі, героямі і паэтыкай адлюстравання. Я не маю дакладнага ўяўлення аб дакументальнай прадукцыі апошняга часу, бо крытыкі ў цяперашняй сітуацыі пазбаўлены магчымасці рэгулярна глядзець нашыя новыя фільмы. Тыя, што давялося пабачыць, — яны пра нашу гісторыю, дзеячаў беларускай культуры, хоць некаторым з іх і нестае вобразнасці, навізны вырашэння тэмы. На гэтай ніве, цікава і плённа працуюць аніматары, заваёўваючы прэстыжныя прызы на розных фестывалях. Відаць, пацвердзіць гэта і наш Нацыянальны. Як кажуць, "інфармацыю для роздуму" даюць ігравыя фільмы. У фестывальную праграму ўключаны ўсе фільмы, што створаны ў 1995 — 96 гг. на базе кінастудыі "Беларусьфільм". Некаторыя з іх толькі гэтым і звязаны з беларускай кінематаграфіяй. Іншыя сувязі цяжка заўважыць, напрыклад, у фільмах М.Голана ("Луіза і Джэк-Пот", "Маскоўская сувязь", "Супермозг"). Актыўна працуе ў нашай студыі пецярбургскі рэжысёр Д.Астрахан.

Кідкія на розныя замежныя "суперы" цяперашнія пракатчыкі паўсюдна заўважылі і даюць дарогу на экран яшчэ двум нашым фільмам — "Гульня ўяўлення" рэжысёра Міхаіла Пташука і "Бег ад смерці" Віктара Дзяругіна. Рэжысёр-мэтр Пташук лепш за іншых прыстасаваўся да рынкавай сітуацыі ў кінематографе. Два яго папярэднія фільмы "Наш бранепоезд" і "Кааператыў "Палітбюро" мелі не толькі публіку, але і прызы фестывалю. У стужцы "Бег ад смерці" малады акцёр Пётр Шчарбіна (родам з Мінска) паказаў свайго героя знешне абаяльным, не пазбаўленым пачуццяў. Гэта і дазволіла персанажу ўсвядоміць грахоўнасць сваіх учынкаў, усё ж яго раскаянне, добраахвотны прыход у міліцыю, драматургічна абгрунтаваныя недастаткова. Каб апраўдаць гэты рашучы момант экраннай біяграфіі крымінальнага героя, рэжысёру, аператару, выканаўцу ролі давялося скарыстаць сітуацыю "пасткі", безвыходнасці.

Можна сказаць, з часу свайго нараджэння дыскусійныя паводле ўспрыняцця — фільмы "На чорных лядах" па апавяданнях Васіля Быкава і "Птушкі без гнёздаў", пабудаваны на драматычным лёсе беларускай паэткі Ларысы Геніюш. Душы балючыя моманты ў нашай гісторыі закранаюць яны. У першым рэжысёр Валерый Панамароў, аператар Аляксандр Абадоўскі, мастак Уладзімір Дзяменцьеў), у адпаведнасці са сцэнарыем Васіля Быкава, сродкамі кіно ўзнаўляюць трагічную сітуацыю самапахавання групы ўдзельнікаў супраціўлення бальшавікам на пачатку грамадзянскай вайны. З натуральнай па выяўленчай фактуры праўдзівасцю аўтары паказваюць, як даведзеныя да адчаю "лясныя валацугі" капаюць сабе агульную магілу, страляюцца і падаюць у яе. Цяжка на гэта глядзець, закрадваецца сумненне ў верагоднасці такога.

Вядома, як па-рознаму ставяцца да лёсу і асобы Ларысы Геніюш. Драматычныя моманты яе біяграфіі: мары і надзеі бачыць свой народ у вольнай Беларусі, здрады паплечнікаў, арышт, вяртанне да роднага кутка — складаюць змест фільма "Птушкі без гнёздаў". Рэжысёр Віталь Дудзін і кінадраматург Яўген Грыгор'еў скарысталі вызначальныя моманты жыцця Ларысы Геніюш, яе ўспаміны аб сям'і, аб тых, з кім звёў лёс у эміграцыі. Датуль не дужа знаёмая ў кіно беларуская актрыса Юлія Высоцкая перажыла ўсе яе скрухі шчыра, з павагай да сваёй гераіні, адчуваннем яе душэўных памкненняў. Аператар Пётр Крывастапенка ўцяпліў гэта сваёй уважлівай камерай, перадаўшы атмасферу часу, месца, дзе адбываюцца дзеянні. Шкада, што драматургія фільма, яго няпростая будова з пераносам часу падзей, успамінамі толькі зрэдку ўключаюць у тканіну экраннага распавядання галоўнае духоўнае багацце і зброю гераіні — вершы. Не бяруся раіць, як можна было зрабіць, але тут адчуваеш нейкія нескарыстаныя магчымасці для стварэння аб'ёмнага вобраза паэткі.

Тыя, каго зацікавіць фестывальная праграма, сустрэнуцца з простай і зразумелай гісторыяй пра чысціню дзіцячых душ і чэрствасць дарослых у фільме "Шэльма" — рэжысёраў-дэбютантаў Алега Ганчаронка і Ігара Чацверыкова. У кароткаметражцы заўчасна памерлага Валерыя Басава "У чаканні" адчуюць тонкасць і далікатнасць яго творчай натуры. А ў другой і апошняй карціне таксама ўжо нябожчыка Віталя Шувагіна, пачынаючы з назвы "Метаноя", сустрэнуцца з загадкай.

Даволі аб'ёмная праграма кінапаказу пацвердзіць, што ў беларускім кіно падрастае змена. Восем кароткаметражак — пастаноўкі маладых. Усе яны вучні знанага кінамайстра Віктара Цімафеевіча Турава, які летась адышоў ад нас, выпускнікі кінафакультэта Беларускай акадэміі мастацтваў. Іх дэбютныя стужкі пабывалі ўжо на многіх фестывалях і былі там адзначаны. Будзем спадзявацца, што, нягледзячы на складанасці цяперашняй сітуацыі ў кіно, яны вырастуць у мастакоў са сваёй індывідуальнасцю.

Як бачым, аспектаў выяўлення сучаснага аблічча беларускага кінематографа шмат. У чымсьці ён парадуе прыхільнікаў кіно, у нечым не задаволіць. А сустрэчы — на карысць абодвух бакоў.

**Ефрасіння БОНДАРАВА, кінакрытык, прафесар**




# "АДНОЎЛЕНАЕ ГНЯЗДО"



Незалежным студыям.
Кожнай — па прадзюсеру-дыназаўру!
**Сцівен Спілберг.**

Кінаактрысам.
Каюся. Люблю па-беларуску-3.
**Яўген Мацвееў.**

Глыбокапаважанаму пану Пташуку.
Міша, не прапусці "Момант ісціны"!
**Андрэй Каравулаў.**



Часопісу "На экранах"
Сорак гадоў — баба ягадка зноў. Квітнейце!
І накладам, і акладам багацейце!
**Каманда "К"**



**дубль 1/"К"**



Алене Тураевай.
Шаноўная, пацэлефануйце ў Капенгаген!
**Г.-Х. Андэрсен.**



## Ну, Вы, блін, даёце!

***Аляксей Булдакоў, "праверaны, наш таварыш".***



Фестывалю.
Калі "першы" — дык каб не блінам! Кінатворцы Беларусі, выпісвайце газету "Культура"! Індэкс: 63875.
**Рэдакцыя.**

Аргкамітэту.
Калегі! Масква нікому не верыць.
**Уладзімір Мяньшоў.**







Брэсцкаму кінапракату.
Трымайцеся! Радзіма вас не забудзе!
**Падатковая інспекцыя.**

Студыі "Таццяна".
Пах жанчыны — водар таленту...
**Аль Пачына.**







Кінамеханікам.
Гук! Рамку! Гасі святло!
**Гледачы.**









Эмблемай Першага нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў нездарма абраны бусел. Гэтая птушка — сімвал нашай зямлі, птушка-стваральнік. У народзе ёсць прыкмета: там, дзе буслы звіваюць гнёзды, заўсёды водзіцца шчасце. Я шчыра жадаю ўсёй няўрымслівай сям'і кінематаграфістаў нашай краіны, каб іх агульны Дом Кіно поўніўся новымі творчымі задумкамі, яркімі стужкамі.

Плёну вам, госці і ўдзельнікі фестывалю! Поспеху конкурсным стужкам! Няхай у "цягніку" імя братоў Люм'ер, даўжыня якога — стагоддзе, годна нясецца ў будучыню і вагон з назвай "Кіно Беларусі".

*Аляксандр САСНОЎСКІ,*
*міністр культуры*
*Рэспублікі Беларусь.*

# МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ — ДЛЯ "БЕЛАРУСЬФІЛЬМА"!

***Не сакрэт, што нацыянальная кінастудыя перажывае сёння не лепшыя часы, што яе творча-вытворчая база прыйшла ў заняпад. Апошняе дзесяцігоддзе вастрэйшых эканамічных праблем у краіне негатывам адбілася на галіне кінаіндустрыі. Стала зразумелым: можна ўвогуле згубіць гэты старэйшы бастыён "сінема", як ужо адбылося ў іншых краінах СНД.***

***Пра ўсё гэта гаварылася ў час жнівеньскай сустрэчы кінематаграфістаў з прэзідэнтам краіны, які ў той дзень правёў на кінастудыі некалькі гадзін. Патрэбы кінатворцаў у грошах відавочныя. Каб вывесці "Беларусьфільм" з крызісу і даць новы штуршок для творчай дзейнасці, А.Лукашэнка паабяцаў кінастудыі фінансавую дапамогу. 14 кастрычніка прэзідэнт падпісаў распараджэнне аб выдзяленні "Беларусьфільму" мільёна долараў са свайго рэзервовага фонду для набыцця сучаснай апаратуры.***

# КІНАКАНІКУЛЫ СКОНЧЫЛІСЯ

***... і пачаўся час інтэнсіўнай працы. Такое ўражанне склалася ў нашага спецыяльнага карэспандэнта пасля размовы з дырэктарам кінастудыі "Беларусьфільм" Іванам КАЛІНКАМ.***



**— У нас ёсць кінастудыя "Беларусьфільм", існуюць незалежныя кінастудыі, спецыялісты для кінастудыі рыхтуюцца на журфаку БДУ, ва Універсітэце культуры, у Акадэміі мастацтваў, хутка адбудзецца І Нацыянальны кінафестываль. Ці можна сёння сказаць аб нейкім адраджэнні беларускага кінамастацтва і кінавытворчасці?**

— Апошнія два гады нельга сказаць, каб пазначылася ярка выражаная тэндэнцыя да актывізацыі інвестыцый у кінавытворчасць. Маюцца на ўвазе дзяржаўныя інвестыцыі ў краінах СНД. У нашай краіне абставіны былі больш спрыяльныя. Міністэрства культуры забяспечвала дзяржаўную замову для кінастудыі ў аб'ёме, эквівалентным 1 мільёну долараў. Гэта загружала праграму вытворчасці дакументальных фільмаў студыі "Летапіс", мультыплікацыйных фільмаў, ігравых фільмаў, дзейнасць тэатра-студыі кінаакцёра. У сучасны момант назіраецца ўздым вытворчасці малабюджэтных фільмаў. Да нас звярнуліся з канкрэтнай прапановай ТВ-6 разам з іншымі інвестарамі аб сумеснай вытворчасці фільма "Права на жыццё" Дзмітрыя Астрахана, і мяркуецца, што затраты можна будзе вярнуць адносна хутка. Гэта таксама паказчык таго, што цікавасць да нашага кінематографа з боку гледача адназначная і гэта адчуваюць тэлевізійныя кампаніі, якія хочуць рабіць сваё кіно ў нас. Наш беларускі глядач высокаадукаваны і багаты духоўна, і тая кінапрадукцыя, якая паступала да нас з-за мяжы, апошнім часам пачала незадавальняць яго патрабаванні. Кінабазары і кінафестывалі паказваюць, што вялікая цікавасць назіраецца да дзіцячага кіно, і не толькі з-за таго, што яго гарантавана можна паказваць як у кінатэатрах, так і ў школах, але і таму, што назіраецца вакуум дзіцячага кіно. Зараз у нас на кінастудыі ў рабоце два дзіцячыя фільмы. З адным з іх, "Маленькі баец", мы спадзяёмся выйсці на снежаньскі Маскоўскі кінабазар. На апошнім кінабазары з намі было заключана некалькі дамоваў на набыццё дзіцячага фільма "Шэльма".

**— Як вырашаецца пытанне з кінапракатам вашых фільмаў на Беларусі?**

— Мы вельмі зацікаўленыя ў тым, каб нашая прадукцыя даходзіла да гледача. Абласныя кінапракатчыкі заўсёды бываюць на кінабазарах і заўсёды набываюць кінакопіі. Праўда, у невялікіх колькасцях, звычайна 1 — 2 копіі на вобласць, так, як ім дазваляюць сродкі. Гэтага, зразумела, недастаткова для актыўнага кінапракату. Цяпер сацыяльна вельмі складаны час, але я перакананы, што нашыя фільмы вяртаюць гледачоў у кінатэатры, бо гледачы ведаюць, што атрымаюць, што ўбачаць фільмы блізкія і зразумелыя ім. Іншая справа ў тым, што кінапракатчыкі павінны больш папулярызаваць беларускія фільмы, але тут зноў сказваюцца матэрыяльныя прычыны. Я перакананы, што І Нацыянальны кінафестываль у гэтым дапаможа.

**— Што дасць удзел у гэтым кінафестывалі стваральнікам фільмаў, у прыватнасці, і кінастудыі, увогуле?**

— Ну, перш за ўсё, паўтаруся, кінафестываль — гэта папулярызацыя беларускага кіно. Удзел стваральнікаў фільмаў у кінафестывалі дае ім магчымасць разабрацца ў тым, што створана і ў якім рэчышчы трэба развівацца далей. А фестывальныя ўзнагароды робяць фільмы больш прывабнымі для кінапракатчыкаў. Я спадзяюся, што наш фестываль стане штогодным і прэстыжным, што ён зможа паўплываць на беларускае кіно лепшым чынам.

**Размаўляў**
**Міхась БАШУРА**

# ВІДЭА — МАСТОК У БУДУЧЫНЮ

***Сяргей ЛУК'ЯНЧЫКАЎ, дырэктар "Белвідэацэнтра". Рэжысёр стужак: "Мясцовы час", "Чарнобыль-фантомы", "Гарадкі"... усяго створана каля васьмідзесяці стужак. Атрымаў лаўрэацкія званні на міжнародных фестывалях: Расіі, Беларусі, Швейцарыі, Аўстрыі...***



**— Сяргей, такая вытворчасць фільмаў, як відэа — знаёмая не толькі профі, але і аматарам. Дзеля каго створаны ў краіне "Белвідэацэнтр"?**

— Сусветная кінаіндустрыя не грэбуе такой тэхналогіяй як відэа нават на міжнародных фестывалях. Селекцыйная камісія працуе з відэакасетамі. Гэта выгодна. Дый не сур'ёзна сёння ўспрымаць і абласныя і раённыя ДК праз "перадзвіжку", якая раз на тыдзень дэманструе новую стужку. Сучасная відэатэхніка даўно не навіна і не раскоша ў людзей. І ўсе мы добра ведаем, што відэастужкі ствараюць як прафесіяналы, так і на аматарскай тэхніцы. Не трэба шукаць чорную кошку ў цёмным пакоі, тым больш калі яе там няма. "Белвідэацэнтр" будуе сваю працу толькі на прафесійным узроўні, доказам таму бясконцыя факсы-запрашэнні на міжнародныя кінафорумы. І не толькі таму, што ў рамках вядомых конкурсаў праводзіцца інфармацыйны паказ фільмаў з іншых краін. Вытворчасць "Белвідэацэнтра" канкурэнтаздольная на сусветным кінарынку. Я не заклікаю, зразумела, усіх прафесіяналаў памяняць тэхніку і мастацкія арыенціры, прапагандуючы дзейнасць цэнтра. Але ж, і шляхі цэнтра са студыяй "Летапіс" ці з "Тэлефільмам" не сутыкаюцца. "Белвідэацэнтр", безумоўна, знайшоў сваю нішу ў мастацтве сучаснай кінаіндустрыі. Вытворчасць фільмаў дасягнула лічбы 50, прычым штатны расклад уключае ўсяго 36 чалавек. Асноўная мэта — прапагандысцка-асветніцкая: фіксуем на стужку звычаі, абрадавыя традыцыі ў беларускай глыбінцы. Прысвячаем фільмы вядомым суайчыннікам — дзеячам мастацтва: кампазітарам, мастакам, рэжысёрам... А чага каштуюць тэматычныя серыі тэатральных пастановак, гісторыі гарадоў Бацькаўшчыны, геаграфіі і архітэктуры? Ствараем, так бы мовіць, архіў на стужцы пра радзіму. Да прыкладу, фільм "Калоўская царква" атрымаў не адзін прыз. Наша жорсткая сучаснасць нарадзіла і жанравыя праграмы на міжнародных кінафэстах: экалагічная, этнаграфічная, на якіх і дэманструецца вытворчасць "Белвідэацэнтра".

**— Ці існуюць каналы ці праграмы на тэлебачанні для фірменнай вытворчасці цэнтра?**

— Абавязкова. Кожны чацвер на канале БТ маем сваю праграму "Белвідэацэнтр" прадстаўляе". Нядаўна атрымалі прапанову супрацоўнічаць ад толькі што створанага канала "Культура" Расійскай тэлекампаніі.

**— Сяргей, ці плануеце вы стварэнне не толькі навукова-папулярнага і дакументальнага кіно на базе цэнтра? Вядома, што напрыканцы нашага стагоддзя заўважна новая старая тэндэнцыя ў кінематографе — цікавасць да кароткаметражных ігравых фільмаў, пад якія, дарэчы, будуюць і конкурсы.**

— Менавіта я бачу далейшую дзейнасць цэнтра ў пашырэнні сеткі незалежных студый па абласцях і нават раёнах. Калі рыхтаваўся тэматычны план на наступны год, мы не прамінулі і пазіцыю "Дэбют", пад якую запланавалі спецыяльна некалькі прац для маладых творцаў з майстэрні Аляксандра Яфрэмава "рэжысура мастацкага кіно". Безумоўна, тэхнічнае абсталяванне пакуль не дасканалае, але на ўсё патрабуюцца вялікія грошы. Супрацоўніцтва цэнтра намагаюцца зарабляць іх, бо нашая арганізацыя існуе на гаспадарчым разліку. Кінапракатныя структуры мала чым нам дапамогуць, яны і самі перажываюць не лепшыя часы. Вы ж добра ведаеце, што сёння ў кіназалах не дэманструюць ні анімацыю, ні дакументальнае кіно. А беларускі глядач, шчыра кажучы, заўсёды быў выхаваны ў патрабаваннях высокамастацкага кінематографа: У мяне такое ўражанне, што новае пакаленне пры раскладзе сучаснай культурнай палітыкі ў рамках рынкавых адносін вось-вось страціць пачуццё добрага густу. Да гэтай пары ў кінематографе не існуе нацыянальнай канцэптуальнай ідэі і, прабачце, вобраза кінагероя. Можна натхняцца шэдэўрамі сусветнага cinema, толькі і ганарыцца айчынным кіно есць за што. Цікава, але асноўным заказчыкам у "Белвідэацэнтры" з'яўляюцца школы і дамы-інтэрнаты. Калі ў моладзі нарадзілася цікавасць да гісторыі і мастацтва сваёй радзімы, то гэта — прагрэс грамадства. Іншая справа, што ўсё тая ж творчая моладзь знаходзіць часцей адзіную магчымасць пацвердзіць свой прафесійны ўзровень менавіта на базе "Белвідэацэнтра". Сёлета дзевяць стужак знялі прадстаўнікі маладога пакалення рэжысёраў: Волах, Аслюк, Адамовіч, Трафіменка, Марчанка, Грыцкова... Хачу падкрэсліць, што на сённяшні дзень нашыя каштарысы на стварэнне фільмаў самыя нізкія ў краіне.



*Сустрэча ў "Белвідэацэнтры" (злева направа): народная артыстка Беларусі Інна Душкевіч, рэжысёр Марыя Андруковіч, журналістка Тамара Абакумоўская, заслужаная артыстка Беларусі Любоў Румянцава.*

**Гутарыла**
**Ніна ВАРАКСА**

# КІНО — НЕ ТОЛЬКІ ПАГОННЫЯ МЕТРЫ СТУЖКІ



**Ігар ВОЛЧАК, старшыня Саюза кінематаграфістаў Беларусі, рэжысёр анімацыйнага кіно. Аўтар арыгінальнай музыкі да 40 кінафільмаў. Рэжысёр фільмаў: "На зары і на двары", "Капрычыо", "Скрозь шэры камень", "Канчэрта гроса", "Муха"... Стужкі атрымалі болей за 20 міжнародных прызоў на фестывалях у Гамбургу, Фрайбургу, Клермон-Феране, Мілане, Рызе, Варне, Кіеве, Маскве, Мангейме.**

**— Калі верыць прэсе і асабістым уражанням, то можна канстатаваць — усе кінафестывалі традыцыйныя, як Дзед Мароз і елка. А што для вас, "играющего тренера" і афіцыйнай асобы, азначае нараджэнне Нацыянальнага кінафоруму?**

— За постперабудовачны перыяд айчынны кінематограф шмат страціў. Паспрабую назваць некаторыя каштоўнасці: Дом кіно на пляцы Незалежнасці, глядацкія залы і аўдыторыі, прэстыж прафесіі і нават павагу адзін да аднаго. Перыяд гэты зацягнуўся настолькі, што я — у шоку ад сённяшняга стану рэчаў, у якім апынулася некалі вядомая і паважаная ў свеце айчынная кінематаграфія. Стужкі беларускіх студый, пры ўсім жаданні, няма дзе ўбачыць. Клуба хоць для рэдкай сустрэчы з калегамі ўжо не існуе... Прэстыжных прэмій кінематаграфістам у краіне няма ўвогуле. А ў гэты час ладзяцца на даволі прыстойным узроўні тэатральныя святы, і плодзяцца, як трусы, прэміі і аўкцыёны куплі-продажу лаўрэацтва культурных шоу. Прабачце, толькі гэта ўжо не шок, а кома. А з яе трэба выходзіць як мага хутчэй. Спадзяюся, што І Нацыянальны кінафестываль стане, так бы мовіць, рэабілітацыйным перыядам для нашага кінамастацтва. Хаця ёсць рызыка: публічны паказ, на жаль, — гэта не заўсёды дэманстрацыя дасягненняў. Вось тут можна і скампраметаваць сябе як прафесіяналаў. І тады, у Брэсце, ніколі гледачы не прыйдуць у кінатэатр. Калі шчыра, дык хочацца верыць у лепшае, нават калі я і не бачыў большасці стужак...

**— Ігар, але ж любы фестываль напрыканцы XX стагоддзя — гэта не агітацыйна-прапагандысцкая акцыя...**

— Безумоўна. Фестываль для творчай асобы — стан душы. Да прыкладу, 4 гады мой сцэнар "Пастараль" не зацвярджалі і я нібы выпаў з творчага марафона. Я засумаваў па прафесіі настолькі, што з пэўным жахам чакаю фінала распачатай працы. Разумееце, у любым відзе мастацтва "гамы трэба іграць кожны дзень", каб не страціць форму. Так і фестываль. Мы толькі спрабуем арганізаваць свае творы ў штогадовую прэстыжную культурную адзіную падзею. За гэтым стаяць праблемы і вялікага штату аргкамітэта, бо менавіта на фестывалях сустракаюцца аднадумцы, калегі, даўнія сябры-кінематаграфісты, каб пагглядзець чужыя працы і свае прадэманстраваць. Гэта жыццёвая неабходнасць, як кісларод.

**— Калі "зоркі запальваюць, значыць гэта каму-небудзь трэба..."**

— Так і не інакш. Я не зайздрошчу лаўрам Хрыстафора Калумба, толькі зноўтакі хачу нагадаць: свет — гэта мітусня мітусні. Чалавек часовая істота, а стварае адвечныя каштоўнасці. І не толькі ў мастацтве. Такія паняцці, як сяброўства, любоў, характэрныя роду чалавечаму. Свет трымаецца на добразычлівых людзях, якіх шмат. За сваё жыццё я неаднойчы быў у гэтым пераканаты. Дарэчы, днямі я разбіраў хатні архіў з наступным тэкстам: "думаць трэба не разумеючы, інакш з'явіцца мэта, якая заменіць жыццё".

**— І ўсё ж такі, калі асэнсоўваеш такую падзею, як кінафестываль, то бачыш, што за лірычнымі размовамі з калегамі стаяць і сучасныя рынкавыя мэты — сімвал дэмакратычнага грамадства.**

— Спачатку рынак трэба прааналізаваць. На вялікі жаль, пакуль у краіне не створаны прафесійныя маркетынгавыя службы, якія б вывучалі запатрабаванні і прапанавалі б пэўную прадукцыю. На сёння абсалютна відавочна, што айчынны кінарынак — не што іншае, як вулічны распродаж ці пірацкая вытворчасць. Безумоўна, і ў кінамастацтве існавалі як адкрыта-камерцыйныя формы падачы матэрыялу, так і высокамастацкія. Усе яны маюць права на жыццё. Напрыклад, стужкі Андрэя Таркоўскага ніколі не рабілі касы, затое яны ўпрыгожвалі не адзін фестываль. Залатую сярэдзіну цяжка знайсці, але фільмы такія ёсць: "Пакроўскія вароты" М.Казакова, "Масква слязам не верыць" У.Мяньшова, "Я родам з дзяцінства" В.Турава. Хай сабе і кан'юнктура, але ж — сучасны шэдэўр для кінарынку. Нават калі раскласці мастацкія і глядацкія прэтэнзіі па паліцах. Кінамастацтва — гэта не толькі пагонныя метры... Бывае адна хвіліна анімацыйнага фільма каштуе дзесяцічасткавай стужкі фільма іншага жанру...

**Размаўляла Жанна ВАСАНСКАЯ**

# МАРЫ ПРЭЗІДЭНТА ПРА РЭНЕСАНС АКЦЁРАЎ



***Святлана СУХАВЕЙ, прэзідэнт Беларускай гільдыі акцёраў кіно. Здымалася ў кінастужках: "Бабіна царства", "Сыны ідуць у бой", "Камандзір шчаслівай "Шчукі"", "Фронт за лініяй фронту", "Не хачу жаніцца"... усяго каля сарака кінароляў.***

**— Здаецца, вы змянілі амплуа актрысы на афіцыйную персону ці проста на вобраз "хадака-прасіцеля" ў кабінетах вышэйшага кіраўніцтва. Надакучыла акцёрскае жыццё?**

— Ні ў якім разе! Папершае — я з задавальненнем працавала ў новым фільме Яўгена Мацвеева "Любіць па-руску-2". Па-другое, я ніколі не пакідала працы ў тэатры-студыі кінаакцёра. А што тычыцца маёй новай "ролі" — прэзідэнта Гільдыі акцёраў кіно, то, сапраўды, яна адымае шмат часу і патрабуе пэўнага іміджу для ўваходу да кабінетных чыноўнікаў. Мае намаганні ў гэтай галіне ўжо маюць вынікі: наш творчы саюз кінаакцёраў, нарэшце, прызналі ў шэрагу іншых творчых структур у Міжнароднай федэрацыі акцёраў. Не сакрэт, што ментальнасць творчага чалавека не дазваляе цікавіцца ў першую чаргу, колькі каштуе ягоная праца. Акцёрскае жыццё залежнае ад многіх фактараў, нават ад удачы. І калі "вецер змен" і прынёс новыя словы ў нашую свядомасць, такія як дэмакратыя, дагавор, кантракт, то творчы чалавек, як ніколі, стаў безабаронным, бо саромеецца пытанняў аб аплаце і ўмовах працы. Шчаслівы, што ўвогуле прафесійна запатрабаваны. У 1996 годзе быў прыняты закон "Аб аўтарскіх правах у Рэспубліцы Беларусь". Нядаўна намі сумесна з юрыдычнай службай студыі "Беларусьфільм" былі распрацаваны новыя формы дагавораў для акцёра з прадзюсерам карціны. Засталося толькі дабіцца на практыцы, што за кожны паўтор стужкі ці выкарыстанне некаторых фрагментаў, акцёр-выканаўца павінен атрымліваць нароўні з заказчыкам і рэжысёрам і свае дывідэнды нават з прыбытку. Напрыклад, стужку маглі прадаваць дзесяць разоў: на розныя каналы ці краіны, перагнаць ці "падагнаць" стужку, зрабіўшы яе канкурэнтаздольнай у іншых жанрах кінарынку. А ганарар атрымліваў толькі заказчык. Акцёр застаецца нібы з боку, часам і не ўбачыўшы сваю работу на вялікім экране. Прададзена! Як на аўкцыёне. Вось мой імідж bisness-woman і прэзідэнта напрамую звязаны з клопатам кінаакцёраў, і, шчыра кажучы, у гэтую ролю я ўжылася, бо надта крыўдна за брата Акцёра і за сябе.

**— Нейкі "саўковы" падыход да справы. Я нават не магу ўявіць Сціва Спілберга, які рызыкуе сваімі грашыма на стварэнне новага фільма, каб потым яшчэ і дзяліцца з акцёрам з прыбытку. Калі, нарэшце, так справа апынецца і фартуна тварам павернецца. Прабачце за каламбур.**

— Ва ўсім цывілізаваным свеце даўно дзейнічаюць законы "Аб аўтарскіх правах і сумяшчальных прафесіях". І вось уявіце сабе, што на самой справе ўсё так і адбываецца. Першыя крокі ў абарону акцёрскай дзейнасці былі зроблены, па іроніі лёсу, ва ўсё той жа славутай сваім законаслухмяным насельніцтвам Амерыцы. Дарэчы, амерыканская гільдыя кінаакцёраў змагалася з "сильными мира сего" сем гадоў, каб дамагчыся афіцыйнага прызнання акцёрскага цэха як праваой адзінкі кінаіндустрыі. Іншая справа, што зараз нельга параўноўваць заробкі галівудскіх зорак з нашымі... Хаця не заўсёды талент адэкватны грашоваму эквіваленту. Толькі гэта ўжо іншая гаворка.

Я лічу, што стварэнне Нацыянальнага кінафестывалю паўплывае на прэстыж нашай прафесіі.

А для акцёраў фестываль — заўсёды стымул і не толькі прафесійны. Бытавыя турботы і час даўно спрацаваны на твары нашых прыгожых жанчын-актрыс, а мужчыны-акцёры толькі ў кіно адчуваюць сябе героямі. Сумна, бо таленавітыя ж людзі... Дастаткова паглядзець рэпертуар тэатра-студыі кінаакцёра. Я спадзяюся, што сяброўскія сустрэчы на Нацыянальным кінафоруме будуць плённымі. Бо, што й казаць, пазнаёміцца з працамі калег і, увогуле, з маладымі прадстаўнікамі беларускага кінематографа было б не блага. Даруйце мне патэтыку, але ж рэнесанс айчыннага cinema павінен адбыцца. Тым больш, што маем у арсенале і ўзнагароды, і славутыя імёны, і сваю школу кінематаграфістаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. На сучаснай мове, дарэчы, правядзенне такіх мерапрыемстваў называюць мастацкім праектам нацыянальнай ідэі. Толькі не трэба забывацца, што шэдэўры ў мастацтве заўсёды мелі ідэю. На гэтым свет пабудаваны...

**— Святлана, дарэчы, ці мае намер Гільдыя кінаакцёраў калі-небудзь "прапісаць" на Беларусі зорны фестываль акцёраў? Або, па-сучаснаму, адкрыць рэстаран кшталту "Планета "Беларусьфільм"?**

— Дарэмна жартуеце. Хіба не нарадзіў наш кінематограф сусветных імён? Безумоўна, акцёры нашыя годныя і большага, але гільдыя яшчэ маладая. Пакуль гаворку рана весці, а жаданне маем. Напрыклад, нашыя калегі з Расіі ладзяць фестываль "Сузор'е", куды заўсёды запрашаюць і беларусаў, якія маюць там вышэйшыя ўзнагароды. І я спадзяюся, што і на VIII Міжнародным фэсце хто-небудзь з нас зноў будзе намінаваны. А паглядзіце на суседнюю Украіну: іх нацыянальная гільдыя таксама праводзіць акцёрскі кінафорум "Стажары"... Нам жа застаецца толькі марыць пра тыя часы. Хаця я казачна люблю фестывалі і заўсёды хвалююся, калі ў намінацыях спаборнічаюць таленавітыя імёны, асабліва суайчыннікі.

А ягоная вялікасць Акцёр, спадзяюся, не страціў пачуцця радасці за калег. Упэўнена, што І Нацыянальны фестываль — доказ братэрства акцёраў, кінематаграфістаў і гледачоў.

**Гутарыла Марфа БЛАГАДАНСКАЯ**



*Трупа Тэатра-студыі кінаакцёра пасля першай прэм'еры. Пачатак 80-х гадоў.*


"Зімародак"


"Лясная быль"


Стэфанія Станюта




"Альпійская балада"


Рэжысёры Юрый Цвяткоў і Віктар Тураў


У.Самойлаў


Аператар Д.Зайцаў за камерай


"Гульня ўяўлення"

Штосьці цяжка ўлоўнае, амаль невымоўнае, але рэальнае —згустак настрояў, які нясе беларускае кіно кожнага гістарычнага перыяду. Экран сталінскай эпохі імкнуўся ўсяляць у нас пафас. Ваенных і пасляваенных гадоў — боль. Шасцідзесятніцтва? Дабрыню. Застой? Тут адным словам не скажаш. Штосьці накшталт горкага недаверу, узведзенага ў асабістую веру. Перабудовачныя гады? Як бы вызначыць больш дакладна... Знявагу. Так, асабістую знявагу і знявагу ўсіх і ўся. Як у "Нашым браняпоездзе" або ў "Кааператыве "Палітбюро" Міхаіла Пташука.

Тут жа можна прывесці прыклады і зусім іншага кшталту, але агульнае ўражанне ўзнікае не ад выключных выпадкаў, якія запамінаюцца паасобку. А ад сукупнай большасці звычайных карцін, што ствараюць эфект цэласнага і беспрапыннага экраннага жыцця, якое не перарывалася практычна да пачатку 90-х гадоў...

...Маё захапленне кінематографам пачалося з "трафейных" фільмаў — з "Лёсу салдата ў Амерыцы" і "Тарзана", "Індыйскай грабніцы" і "Сетак шпіянажу". Айчынных карцін тады, у 50-я гады, было малавата. У асноўным ішлі фільмы, створаныя да вайны і ў час яе. З беларускіх карцін запомніліся бліскучыя "Мядзведзь" з Жаравым і камедыя пра дзяўчыну, якая ўвесь час спяшалася на спатканне. І яшчэ "Балтыйцы", "Маё каханне"... Гэта яшчэ не беларускія фільмы ў прамым сэнсе, але ўсё ж — Корш-Саблін, Булінскі, Файнцымер — былі нібыта нашымі...

Другі, пасля "Новага дома", пасляваенны выдатны фільм пра Заслонава быў ужо цалкам "беларускі", хоць і з рускім Дружнікавым у загалоўнай ролі. А ўслед — "Паўлінка", "Пяюць жаўранкі", "Хто смяецца апошнім", першы каляровы "Дзеці партызана"... І "Несцерка" з бліскучым Барысам Ценіным... Нацыянальны кінематограф набіраў сілу...

А ў 56-м годзе я ўпершыню на ўласныя вочы ўбачыў, як здымаўся такі нацыянальны фільм. Гродна. Чыгуначны вакзал. Здымачная група "Міколкі-паравоза". Мітусіцца Леў Голуб. Ніяк не ладзіцца эпізод сустрэчы народа з царом-бацюхнай... А я горды: на эпізадычную ролю кайзераўскага салдата запрасілі здымацца майго школьнага таварыша Валодзю Арлова, будучага кінарэжысёра...

З таго часу прайшло чатыры дзесяцігоддзі. Шмат было паламана пёраў адносна таго, што такое беларускае кіно і ці ёсць яно ўвогуле. Чаму беларускія кінарэжысёры запрашаюць на галоўныя ролі акцёраў расійскіх, а то і прыбалтыйскіх, як Эдуарда Павулса ў "Чырвоным лісці"? Што, сваіх самабытных талентаў няма?

А між тым, гэтыя самыя "самабытныя" з дапамогай "не нашых" рэжысёраў узыходзілі на кінаалімп савецкага кіно, якое рабілася і на "Масфільме", і на "Ленфільме" і на Кіеўскай студыі: С.Станюта, М.Яроменка, Р.Янкоўскі, П.Кармунін, Г.Макарава, Р.Філіпаў...

Ну і што, скажаце вы? На Захадзе і ў ЗША смешна так ставіць пытанне: чаму італьянец здымаецца ў Францыі, а француз у Галівудзе? Там такой праблемы ніколі не існавала. А калі паглядзець інакш? Якое сузор'е "чужых" акцёраў прайшло праз беларускую кінастудыю — Сіманаў, Бабачкін, Б.Ліванаў, Жараў, Дружнікаў, У.Самойлаў, Ларыёнава, Кміт, Ледагораў, Высоцкі, Гарабец, А.Кузняцоў, Бабкаўскас, Няўзораў, М.Грыцэнка, Пятрэнка, А.Янкоўскі... Словам, інтэграцыя працавала на поўную магутнасць...

Вядома ж, сёння быць аптымістам і пісаць пра сучаснае беларускае кіно неяк непрыстойна. Папулярныя інтанацыі плачу і злых прароцтваў: "ці толькі гэта яшчэ будзе", калі няма грошай на пастаноўкі карцін. Калі кінатэатры пустыя, калі даводзіцца здаваць камусьці ў арэнду плошчы кінастудыі, калі зарплата "кіношнікам" зусім мізэрная... І няма пракату...

Можа, я і не маю рацыі і калісьці раскаюся, але я аптыміст, і мой аптымізм атрымлівае падлітку даволі часта, калі я гляджу, скажам, апошнія фільмы Пташука. Ды што там прыбядняцца? Ці ж не адкрылі свету нашу Беларусь Тураў і Дабралюбаў, Нікіфараў і Чацверыкоў, Корш-Саблін і Голуб, Дашук і Сцяпанаў, Сплашноў і Карпаў?

Няхай нашае кіно называецца "партызанскім", няхай... Але гэта было нашае кіно, фірменнае, гуманістычнае, чалавечае і, дарэчы, такое, якое замяняла нам заакіянскія вестэрны і баевікі.

Вядома, праблемы пракату, разгул трэцяга гатунку амерыканскіх фільмаў

# МОЙ БІЛЕТ НА


"Шляхціц Завальня"


"Праз могілкі"

"Дзікае паляванне караля Стаха"


Алег Белавусаў


Міхаіл Ждановскі


Міхаіл Пташук


Ігар Дабралюбаў


Уладзімір Пяткевіч


Аляксандр Чакменеў


Вячаслаў Рыбараў


Таццяна Логінава


Юрый Гарулёў


"З пекла ў пекла"


"Крушэнне імперыі"


"Анюціна дарога"


"Бег ад смерці"

сталі бар'ерам не толькі для нашай нацыянальнай кінематаграфіі. Вось, напрыклад, што сёння ідзе ў мінскіх кінатэатрах: "Глявар мафіі", "Смяротны снег", "Месца дзеяння ЗША", "Калігула", "Прыгажосць парока", "Узяць жывым або мёртвым" — усяго каля сарака фільмаў. І толькі адна карціна, створаная на "Беларусьфільме", — дэтэктыў "Бег ад смерці". Ідзе ў "Аўроры" на трох кінасеансах... Так, міжнародны лёс сённяшніх беларускіх карцін, прама скажам, стаў непрадказальным і парадаксальным.

Наўрад ці варта сёння брацца за вывядзенне пэўнай формулы нашага існавання ў сусветным кінапрацэсе. Пытанне гэта настолькі складанае, што сёння мы маем толькі мізэрныя подступы да яго вырашэння. Перш за ўсё мяне, як гледача, хвалююць такія абставіны. Справа ў тым, што мы, кідаючыся ў прастору сусветнага экрана, не вельмі дакладна ўяўляем сабе: а ці патрэбны мы гэтаму сусветнаму кіно? Сёння кожнаму зразумела, што XXI стагоддзе будзе стагоддзем амерыканскага кінематографа. Амерыканцы ўжо кантралююць больш за 80% сусветнага кінапракату. І спроба выратавацца ад галівудскай экспансіі пакуль нікога не прывяла да істотных вынікаў. Так, кіно гібее практычна ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы і СНД.

Ці ж трагедыя гэта? Відаць, для асобных дзяржаў і для асобных мастакоў — так, трагедыя. А ў сітуацыі сусветнай? Яшчэ невядома. Не будзе, скажам, кіно Польшчы, Венгрыі, Балгарыі, Беларусі або Літвы. Ну і што? Вядома, крыўдна, цяжка, сумна, але сусветны кінапрацэс і не заўважыць іх знікнення.

Дык што ж рабіць? Я асабіста ўпэўнены: беларускаму кіно неабходна адмовіцца ад месіянскага імкнення ўвайсці ў сусветную прастору. Гэтага нам пакуль не дадзена. І не трэба ствараць ніякіх ілюзій. Што, канешне, не выключае прарыву ў сусветны пракат аднаго асобна ўзятага мастака. Але калектыўна і масава ўвайсці ў гэты свет мы ўсё роўна пакуль не здолеем. Усё роўна мы будзем знаходзіцца на пэўнай адлегласці.

Захад бачыць у нас тое, што жадае бачыць. І любіць тое, што жадае любіць. Наша грубая, візуальная прырода кіно яго не вабіць. У ім няма "фабрыкі летуценняў". У гэтым ёсць штосьці містычнае, адначасова і прагматычна вылічанае. Вось Мікіта Міхалкоў выдатна ведае, што робіць. Ён робіць карціны, разлічваючы іх больш на густы заходняга бамонда, чым на свайго роднага, айчыннага... У нас такіх міхалковых пакуль няма. Магчыма, гэта і добра. Самае страшнае, што нас можа чакаць, — гэта імкненне адлюстроўваць на экране Беларусь такой, якой яе хочуць бачыць заходнія заказчыкі ці спонсары...

А ў прынцыпе да ўсяго трэба ставіцца спакойна. Спакойна працаваць, развіваць тыя лініі і напрамкі — няхай гэта будзе наша гераічная спадчына, "славянская душа" або славуты "беларускі менталітэт", — якія маюць патэнцыяльнае развіццё. На іх і трэба арыентавацца ў першую чаргу.

Хаця гэта цяжка: такія фільмы нібыта сёння не патрэбны ні "амерыканізаванаму" гледачу, ні пракатчыку, ні прадзюсеру, ні тым, хто мае ўладу. Бо — ні табе прыбытку, ні "высокай эстэтыкі", ні "развлекалки". І я не надта падзяляю калектыўныя "ахі" крытыкі і журы розных кінафестывальных "віцязяў" і "лістападаў", якія жыццярадасна падлічваюць вынікі: столькі гран-пры, столькі першых прэмій, столькі... Гэта хутчэй камуфляж, перапіс міражоў, фантомаў...

І ўсё ж я веру. Настальгічна ўспамінаючы старыя і зусім не старыя добрыя кінастужкі нашыя, схіляюся перад іх стваральнікамі. І тады было цяжка рабіць карціны: магутны ідэалагічны прэс ламаў творчыя душы іх стваральнікаў. Але — рабілі. Зусім іншыя праблемы сёння, але і іх трэба рашаць; развітаўшыся з ідэалогіяй, наш кінематограф павінен вяртацца да вытокаў, да сваёй фізічнай і эстэтычнай прыроды. Замкнёны на сабе, "рэч у сабе", ён павінен стаць рэччу для ўсіх. Словам, яшчэ раз нарадзіцца...

Цікава, а што нясе беларускае кіно на сённяшнім гістарычным адрэзку?

**Барыс КРЭПАК, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ваш зацікаўлены глядач.**



# СЕАНС НАДЗЕІ





"Знак бяды"


"Іван Макаравіч"


"Метаноя"


"Кветкі правінцыі"


"Птушкі без гнёздаў"


Аляксандр Ткачонак


Генадзь Гарбук


"Вогненны стралок"


Дакументаліст Сяргей Пятроўскі


Яўген Ганкін і Уладзімір Высоцкі ў час здымак


Віктар Тураў


Галіна Рагачова


Юрый Казючыц


Расціслаў Шмыроў


Вадзім Сукманаў


Віталь Шувагін


Юрый Лысятаў


Валерый Басаў

ТЫЯ, ХТО

# І РЫСКА МЯНЯЕ ФОРМУ БРЫВА

**З чалавекам вельмі цікавай, рэдкай і складанай прафесіі — мастаком-грымёрам кінастудыі “Беларусьфільм” Рыгорам ХРАПУЦКІМ гутарыць наш спецыяльны карэспандэнт.**



**— Як атрымалася, што вы сталі грымёрам? І ці праўда, што гэтая прафесія перадаецца з пакалення ў пакаленне?**

— Не, гэта не так. Але сапраўды прафесія вельмі рэдкая і не дзіўна, што пра яе ходзяць нейкія чуткі. А ў мяне ўсё пачалося са школы, цікавіўся маляваннем, наведваў гурток, з-за свайго захаплення жывапісам нават перайшоў з дзённай школы ў вячэрнюю. Пасля школы некалькі разоў спрабаваў паступаць у розныя вучылішчы. Я думаў, што калі адзін раз “праваліўся” ў Кіеўскім, то цябе там ужо ведаюць і на наступны год туды паступаць ужо не варта. У рэшце рэшт паступіў у Адэскае тэатральнае вучылішча. Там былі розныя спецыяльнасці, але, параіўшыся з педагогамі, вырашыў паступаць на мастака-грымёра. Спачатку было настолькі цяжка, што я нават хацеў кінуць вучобу, але мяне адгаварылі, і я ніколькі не шкадую, што не здзейсніў свой намер. Было вельмі цікава, мы ўсе маладыя хлопцы (чамусьці, калі я вучыўся, было больш хлопцаў), энергічныя, цікаўныя. Грыміравалі адзін аднаго, што нельга было нават пазнаць. Потым сапраўды было вельмі цікава.

Пасля вучобы ў 1958 годзе мяне накіравалі ў Мінск на кінастудыю, бо я быў з Беларусі. Вучоба вучобай, а практыка заўсёды патрэбна, тым больш што ў вучылішчы была тэатральная спецыфіка, а тэлебачанне мае свае адрозненні. Напачатку было вельмі складана працаваць. А потым, гады праз два, мне даверылі першы фільм, гэта быў вялікі гонар для мяне.

**— У чым спецыфіка, адметнасць вашай працы?**

— Вельмі яскрава гаворыць аб працы грымёра прыклад з замежнымі артыстамі, з якімі даводзілася працаваць. Яны былі здзіўлены, што грымёр займаецца і стрыжкай, і прычоскай, і макіяжам, і грым накладвае, і парыкі сам робіць. За мяжой кожную з гэтых работ выконвае асобны чалавек. А ў нас грымёр — універсал, павінен валодаць рознымі спецыяльнасцямі. Вельмі складаная і скрупулёзная работа па стварэнні парыкоў, барод, вусоў. Тут кожны валасок трэба ўвесці ў аснову і асобна яго ўклеіць і ўвязаць. Многія не вытрымліваюць у рабоце грымёра якраз гэтую скрупулёзнасць, дакладнасць. Незаўважная рыска мяняе форму брыва, адсюль іншы характар, мяняецца вобраз героя.



**— Вы працавалі над многімі фільмамі і з многімі рэжысёрамі, з кім больш за ўсё вам падабалася працаваць?**

— Я вельмі паважаю Віктара Турава і гатовы быў ехаць і працаваць з ім куды заўгодна і ў якіх заўгодна ўмовах. Калі я яго яшчэ не ведаў, я чуў, што ён вельмі строгі чалавек, але мяне гэта не спыняла — я вельмі хацеў з ім працаваць. І вось пасля аднаго з паказаў я набраўся смеласці і падышоў да яго: “Віктар Цімафеевіч, калі вы нарэшце возьмеце мяне ў свой фільм?” “Добра, добра”, — адказаў ён і мы разышліся. Я паехаў у Добруш адпачываць летам, а праз тыдзень прыйшла тэлеграма, у якой мяне выклікалі на здымкі, і я паехаў з жонкай на Палессе на здымкі фільма “Людзі на балоце”.

**— Я ведаю, што ў Беларусі рыхтуюць візажыстаў, а ці рыхтуюць у нас грымёраў?**

— Не, раней грымёраў рыхтавалі ў Адэсе і ў Маскве, можа, зараз нешта змянілася. Але дакладна ведаю, што ў Беларусі такой навучальнай установы няма. Мы з Віктарам Туравым думалі пра гэта і абмяркоўвалі варыянты. Віктар вельмі хацеў, каб у Беларусі рыхтавалі сваіх грымёраў. Калі здымаецца нейкі гістарычны фільм ці казка, патрэбны 4-5 грымёраў, якія былі б задзейнічаны на ім пастаянна. Ніколі такога не было і не будзе, каб грымёр працаваў над некалькімі фільмамі адначасова, бо адзін фільм можа здымацца на кінастудыі, а другі дзе-небудзь на Палессі. Грымёр жа павінен увесь час быць побач з апаратам і ўважліва назіраць за акцёрам, таму што некаторыя нюансы заўважаюцца толькі з экрана, і грымёр павінен аператыўна выпраўляць нейкія недахопы і змяняць штосьці ў сувязі з задумай фільма. У нас жа на кінастудыі пастаянна працуе ўсяго 5 грымёраў, таму і даводзіцца запрашаць на нейкія фільмы грымёраў з іншых месцаў, напрыклад, з тэатраў, або тых, хто ўжо на пенсіі.

**— Ці ёсць у вас вучні, якім вы перадаяце сваё майстэрства?**

— Няма, у тым і праблема. Праца грымёра цяжкая, аплочваецца мала. Каб працаваць грымёрам, трэба быць вялікім энтузіястам. Раней у мяне былі вучні, але зараз яны ўжо самі майстры, працуюць. У Рускім драматычным тэатры працуе Надзея Кудраўцава, вельмі добры майстра, я яе заўсёды запрашаю на нейкія фільмы, калі патрэбныя грымёры.

**— А з вашых блізкіх ні ў кога няма жадання асвоіць вашую прафесію, і як вы самі ставіцеся да таго, каб перадаць сваё майстэрства ў спадчыну?**

— Мой унук Ягор крыху звязаны з кіно, дзякуючы Віктару Тураву ён пачаў здымацца, зараз здымаецца ў новым фільме. Ён ведае маю прафесію, але ці захоча ён далей здымацца ў фільмах, ці захоча нечым іншым займацца — гэта яго справа, яго асабістае жаданне. Яшчэ раз паўтаруся, што я б вельмі хацеў, каб у Беларусі рыхтавалі сваіх грымёраў.

**Гутарыў Міхась БАШУРА**

# СПЕЦЫФІКА ЖАНРУ

***У гэтым незвычайным жанры — кінамузыка — можа працаваць далёка не кожны кампазітар. Каб вызначыць рыцараў жанру менавіта ў нас, на “Беларусьфільме”, трэба доўга прыгадваць і, нарэшце, пералічыць па пальцах: Леанід Захлеўны, Алег Елісеенкаў, Ігар Лучанок, Сяргей Картэс, Віктар Капыцька... З адным з іх, Уладзімірам КАНДРУСЕВІЧАМ, сёння наша гаворка.***

**— Уладзімір, як сталася, што вы пачалі пісаць музыку да кінафільмаў?**

— Я скончыў кансерваторыю як піяніст, пасля працаваў у Тэатры оперы і балета. Менавіта гэты перыяд прынёс мне шмат знаёмстваў з рэжысёрамі, з акцёрамі. Там і пачаў спрабаваць пісаць тэатральную музыку. Другі раз скончыў кансерваторыю ўжо як кампазітар. Займаючыся непасрэдна класічнай музыкай: пісаў оперы і балеты, ніколі не забываўся на музыку тэатральную, бо менавіта тут і трэба не толькі іграць санату па нотах, а можна імправізаваць. Удзельнічаць у гэтым творчым працэсе мне спадабалася, і я адчуў, што патрабуецца акурат для гэтага жанру.

**— А што для яго патрабуецца, падзяліцеся сакрэтам?**

— На маю думку, у дадзеным выпадку нельга паўтараць і дубліраваць сюжэт карціны, само дзеянне, а трэба выявіць у музыцы тое пачуццё, якое нараджаецца, калі глядзіш гэты фільм, ці наадварот, знайсці кантрапункт: адлюстраваць у музыцы супрацьлеглы настрой. Напрыклад: на экране светлы летні дзень, а музыка гучыць змрочная. Атмасфера, настрой кіно ствараюцца шмат у чым за кошт музыкі да яго. Гэта той выпадак, калі музыка дыктуе свае правы.

**— Якія якасці, на ваш погляд, неабходныя, каб стаць кінакампазітарам?**

— У першую чаргу, гэта высокія прафесійныя якасці. Не трэба ніколі спыняцца на дасягнутым. Неабходна працаваць над сабой увесь час, імкнуцца даведвацца як мага больш, менавіта гэта і толькі гэта вельмі дапамагае ў набыцці неабходнага прафесіяналізму. Я кажу не толькі адносна працы кінакампазітара.

**— Вы так горача выказалі сваю жыццёвую пазіцыю... Раскажыце крыху пра сваю сям'ю.**

— У мяне добрая сям'я: маю двух сыноў, жонка прысвяціла сябе цалкам іх выхаванню. Яна вельмі мне дапамагае, якраз яна стварае добрую творчую атмасферу ў сям'і. І калі я маю ўсё гэта, значыць я маю вельмі многа.

**— Не магу не пагадзіцца, сапраўды, калі творчая атмасфера яшчэ і дома, то гэта гарантуе амаль сто працэнтаў поспеху ў асноўнай творчай працы. Колькі кінафільмаў маюць ваша музычнае афармленне?**

— Прыкладна трыццаць.

**— Работа над музыкай да якіх вам найбольш запомнілася?**

— Я назаву апошнія фільмы, да якіх пісаў музыку: “Плач перапёлкі” Ігара Дабралюбава, паводле рамана Івана Чыгрынава, “Птушкі без гнёздаў” Віталя Дудзіна.

**— Як на вашу думку, чаму нямногія з нашых кампазітараў бяруцца за гэты жанр — кінамузыку?**

— Па-першае, гэтаму ў кансерваторыі не вучаць. Да гэтага кампазітар павінен прыйсці сам. Наогул жа тут ёсць свае нюансы. Найперш — дакладнае адчуванне таго, што патрабуе ад цябе рэжысёр. Прынамсі, ён размаўляе са мной, канешне ж, не на музычнай мове. Адносіны рэжысёра і кінакампазітара можна назваць асацыятыўнай пабудовай, дзе вельмі важная інтуіцыя.

**— Звычайна, калі адбываюцца прэм'еры оперы ці балета, калі гучыць упершыню сімфонія альбо саната, у цэнтры ўвагі публікі — аўтар-кампазітар. Калі ж у кінатэатры ідзе прэм'ера кінафільма, то кампазітар — не першая асоба гэтай падзеі. Як вы ставіцеся да гэтага?**

— Гэта нармальная з'ява. У рэшце рэшт, за кінафільм адказвае рэжысёр. Ён — галоўная фігура і ён у першую чаргу пацерпіць, калі, надараецца, музыка да фільма не прымаюць: маўляў, запрасіў працаваць не таго, каго трэба.

**— А ці здаралася ў вас, што вашу музыку не прымалі?**

— Не, такога не было. Наадварот, былі выпадкі, калі даводзілася “выратоўваць” іншых, перапісваць чужую музыку альбо пісаць новую. Але гэта я лічу за норму. Гэта толькі пацвярджае спецыфіку жанру — кінамузыка.



*Уладзімір Кандрусевіч з сынамі.*

**— Над чым вы працуеце зараз?**

— Акурат цяпер у адным з павільёнаў тэлецэнтра, дзе ідзе наша гаворка, здымаецца фільм “Апошняя роля”, да якога мяне запрасіў напісаць музыку Віталь Дудзін.

**— Гэта ўжо другая ваша сумесная работа з ім?**

— Так. Першая — фільм, што я згадваў раней: “Птушкі без гнёздаў”, ён быў зняты ў 1995 годзе. Гэты фільм — адзін з конкурсных, якія будуць прадстаўлены на І Нацыянальным кінафестывалі ў Брэсце.

**— Мяркуючы па тым, што Віталь Дудзін зноў запрасіў вас да сумеснай работы, вы з ім знайшлі паразуменне як рэжысёр і кінакампазітар на здымках папярэдняга фільма?**

— Калі пачынаў пісаць музыку да “Птушак без гнёздаў”, дык адразу пачаў з пошуку дакладнага адбітка, “музычнага эквівалента” рэжысёрскай думкі. І калі гэта адбылося, работа пайшла...

***Пра сумесную творчую працу над фільмам “Птушкі без гнёздаў” гаворыць рэжысёр Віталь ДУДЗІН:***

— Уладзімір Кандрусевіч — вельмі таленавіты кінакампазітар. Галоўная яго вартасць у тым, што ён не проста ілюструе дадзены матэрыял, а сам можа знайсці, падказаць тэму, якая пойдзе ў кантэксце фільма і ўзбагаціць, надасць новае адценне ўсёй стужцы; ён раптам знойдзе кантрапункт і вынік будзе нечаканы і для гледача, і для самога кампазітара.

**— А калі больш канкрэтна: як вы з ім працуеце?**

— Дапусцім, што ён мне прайграў музычную тэму, і хаця я кажу яму, што гэта добра, але сам адчуваю, што гэта не зусім тое, што трэба. І як ні дзіўна, ён гэта адчувае таксама, улаўлівае тое, што мной недагаворана. І вось прыходжу я дадому: тэлефонны званок. Уладзімір звоніць, каб — уявіце, па тэлефоне! — іграць ужо новы варыянт гэтай тэмы. Ён надзвычай чуйны да маіх рэжысёрскіх патрабаванняў і, у рэшце рэшт, знаходзіць якраз тую, адзіна патрэбную музычную танальнасць фільма, якая мне здавалася. Так было, калі здымаўся фільм “Птушкі без гнёздаў”, так працуем мы і зараз над фільмам “Апошняя роля”...

**З кампазітарам і рэжысёрам размаўляла Алена РЫГОРАВА**

## ЗА КАДРАМ...

# ГЕНІЯЛЬНЫ ТЫМ, ШТО НЕЗАЎВАЖНЫ...

***Уладзімір ДЗЯМЕНЦЬЕЎ валодае кінематаграфічным мысленнем — рэдкім, але неабходным дарам для мастака кіно. Гэтая якасць у спалучэнні з талентам зрабіла яго адным з выдатных мастакоў айчыннага кінематографа.***

**— Уладзімір, не крыўдна, калі своеасаблівасць тваёй творчасці паглынаецца кінаэкранам?**

— Наадварот. Гэта — умова поспеху любога фільма, калі ўсе мы — рэжысёр, аператар, мастак, кампазітар — нібы раствараемся ў карціне. Як сказаў адзін мой выкладчык па "ВГИКу", мастак кіно геніяльны тым, што незаўважны.

**— Прыгадай свой першы фільм.**

— "Вуліца малодшага сына" Льва Голуба, які здымалі проста на натуры — у Керчы, у трагічных Аджымушкайцкіх катакомбах.. Гэтым фільмам я і абараніў дыплом... А другую па ліку карціну "Трэцяя ракета" паводле Быкава рабіў разам з Яўгенам Ігнацьевым...

**— А з Віктарам Туравым дзе пазнаёміўся?**

— Ва "ВГИКу". Ён запрасіў мяне і Ігнацьева ў якасці мастакоў-пастаноўшчыкаў на сваю дыпломную стужку "Праз могілкі"...

**— Гэты фільм рашэннем ЮНЕСКО быў унесены ў спіс ста лепшых карцін свету...**

— З Віктарам Цімафеевічам я потым зняў яшчэ тры фільмы: "Час яе сыноў", "Нядзельная ноч" і казку "Гора баяцца —шчасця не бачыць"... Тураў быў вялікім энтузіястам і ў жыцці і ў кінематографе. Вельмі мужны чалавек. У Віці былі складанасці са здароўем, ён перанёс цяжкую аперацыю, але, сцяўшы зубы, працаваў, як вол. Памятаю, яшчэ не акрыяўшы ад аперацыі, ён тут жа паімчаўся выбіраць натуру. Ды і ў апошнія месяцы жыцця, ведаючы пра сваю невылечную хваробу, апантана працаваў. У гэтых адносінах ён быў падобны да цудоўнага акцёра Уладзіміра Якаўлевіча Самойлава. У час здымак "Дуброўскага", дзе ён іграў Траякурава, у яго знайшлі рак лёгкага. Мы думалі: усё, канец. Здымкі спынілі амаль на год, і я ўжо пачаў працаваць у "Нашым браняпоездзе". Але пасля аперацыі Самойлаў тут жа вярнуўся на здымачную пляцоўку...

**— А якім быў для цябе Тураў-рэжысёр?**

— Выдатным майстрам сусветнага ўзроўню! Я ў яго шмат чаму навучыўся... Сваю працу ён даваў як правіла на выяўленчым рашэнні, мысліў пластычна, шырока, фактурна. Усю натуру асабіста выбіраў разам з мастакамі. Мы яго так і называлі: "Тураў-натураў": звычайна рэжысёры ў выбары натуры перакладаюць усё на мастака і прыязджаюць на гатовыя "аб'екты"... А яшчэ Тураў быў выдатным "акцёрскім" рэжысёрам.

**— З Ігарам Дабралюбавым ты пачынаў з "Івана Макаравіча"?**


Рабочы момант здымак фільма "Знак бяды".

— Так, гэта было трыццаць гадоў таму. Спачатку ад пастаноўкі гэтага фільма адмовіліся ажно тры рэжысёры. Настолькі быў слабы сцэнарый. Але Дабралюбаў згадзіўся, бо ідэя сцэнарыя "аўтабіяграфічна" клалася на яго душу: гаворка ішла пра лёс дзяцей вайны; пра пакаленне, да якога належаў і ён. Дарэчы, я і аператар Дзіма Зайцаў таксама. Здаецца, фільм атрымаўся...

**— Пра што гаворка! На Міжнародным кінафестывалі ў Венецыі ён атрымаў Галоўны прыз за лепшы дзіцячы фільм... А потым ты здымаў з Дабралюбавым "Братушку"?**

— Так. Праз восем гадоў. Гэта быў трэці нацыянальны фільм, зняты беларусамі сумесна з замежнымі калегамі. Да гэтага выйшлі "Пушчык едзе ў Прагу" і "Заўтра будзе позна", абодва з кінематаграфістамі ЧССР.

**— Пташук, як і Тураў, таксама "акцёрскі" рэжысёр, ці не так?**

— Так, і менавіта дзякуючы акцёрскай індывідуальнасці Ніны Русланавай фільм "Знак бяды", па-мойму, у многім выйграў...

**— Дзе вы яго здымалі?**

— Пра гэта можна напісаць цэлую навелу! Але, калі ў двух словах... Доўга шукалі натуру: нам патрэбны быў закінуты хутар, які мы паводле сцэнарыя мусілі "спаліць". Не знайшлі. Нарэшце, у раёне Баранавічаў вырашылі пабудаваць такі хутар. Будавалі на старых фундаментах, нават нанялі вартаўніка. І ўся наша "дэкарацыя" так натуралізавалася, што на кінахутары і сапраўды пасяліліся і сабака, і куры, і нават прыбілася карова. Жыла і варона, якая моцна пасябравала з кацянём. Хутар мусіў быць "спалены немцамі". Русланава ў мяне і пытаецца: "Уладзімір Андрэевіч, а як вы мяне бачыце ў палаючым доме? Гэта ж небяспечна..." Я адказаў, што маўляў, мы збудавалі вынаску з выхадам, дзе не будзе задняй сценкі, так што выскачыць не праблема. "А калі не паспею?" — занепакоілася Ніна. Я тады зусім сур'ёзна кажу аператару: "Так, Ніна можа не паспець выскачыць. Так што гэтую сцэну здымай у апошнюю чаргу..." Русланава — у жаху! Але потым жарт дайшоў да яе і яна рассмяялася...

**— У карціне "Наш браняпоезд", які ты здымаў з Міхаілам Пташуком, на мой погляд, вельмі ўдала падабраны не толькі акцёрскі ансамбль, але і дэкарацыі і касцюмы... Пра рэжысуру я ўжо не кажу...**

— Касцюм, дарэчы, вельмі важны элемент у карціне. Адзін няўдалы касцюм можа загубіць усю работу мастака па стварэнні атмасферы і колеравага стану эпізоду. Вось факт: перад здымкай эпізоду "на лецішчы" мастачка па касцюме Нэля Жыжаль падрыхтавала для Міхаіла Ульянава новы генеральскі мундзір з пагонамі, штаны з лампасамі, хромавыя боты, фуражку, — усё як мае быць... Прыехаў Міхаіл Аляксандравіч, паглядзеў і прапанаваў: "А ці не паспрабаваць мне апрануцца ў старую гімнасцёрку, галіфэ і простыя кірзавыя боты, далібог, будзе больш пераканаўча і праўдзіва!" Так і вырашылі, і добра атрымалася. А што тычыцца акцёрскага ансамбля, дык сапраўды Пташук у гэтай справе непераўзыдзены майстра! Ульянаў, Філіпенка, Пятрэнка... І заўваж: ніхто з іх "не саліраваў", ніхто не цягнуў коўдру на сябе, і вялікая заслуга ў гэтым Валодзі Гасцюхіна: ён быў цудоўным "сувязным" паміж імі.

**— Хто табе з рэжысёраў яшчэ запомніўся?**

— Слава Нікіфараў. Мы з ім рабілі карціну "Узбочына" і тэлевізійную версію "Бацькоў і дзяцей" паводле Тургенева. Дарэчы, гэтая работа была ў той час адзінай, удастоенай Дзяржаўнай прэміі СССР за ўвасабленне класікі ў нашым кінематографе.


Эскіз да фільма "Іван Макаравіч".

**— Работа мастака была складанай?**

— Вельмі. Давялося выкарыстоўваць масу дэкарацыйных аб'ектаў. Здымалі ў трох месцах: у Мінску пачыналі, працягвалі і заканчвалі павільённыя здымкі ў Маскве, а экстэр'ерныя, сядзібныя — у Ленінградзе.

**— Словам, стварэнне матэрыяльнага асяроддзя, як элемента вобразнага рашэння карціны, заўсёды адыгрывае значную ролю ў раскрыцці задумы.**

— Безумоўна. Вось, напрыклад, здымалі мы карціну "Я, Францыск Скарына..." Як мастак-пастаноўшчык, я так захапіўся тэмай, так увайшоў у гэты кінапрацэс, што нават па начах мне снілася XVI стагоддзе. У пошуках натуры мы прайшлі дарогамі Скарыны, пачынаючы ад Беларусі і заканчваючы Чэхіяй і Польшчай. Праўда, у Італіі не пабылі.

**— Так, "натура" XVI стагоддзя ў карціне выглядае выдатна, асабліва Ягелонскі універсітэт у Кракаве.**


Эскіз да фільма "Я, Францыск Скарына".

— Сапраўды, гэты унікальны універсітэт захаваўся дасюль у сваім першасным выглядзе, і мы хацелі здымаць яго на натуры. Але ад нас палякі за гэта запатрабавалі 100 тысяч рублёў. Гэта пры тым, што ўвесь фільм каштаваў 460 тысяч... Мы адмовіліся...

**— Але ўсё ж знялі?**

— Тады я сабраў увесь выяўленча-дакументальны матэрыял пра гэты універсітэт, і на яго аснове пабудавалі на тэрыторыі нашай кінастудыі двор: 16-метровыя сцены, ярусы, галерэі і г.д. І калі карціна выйшла, палякі здзівіліся: як мы паспелі адзняць у Кракаве гэты будынак? Да чаго гэта я? Дэкарацыйны комплекс у карціне — не проста ігравая прастора. Гэта свет эмацыянальнага ўздзеяння, сацыяльнай арыентацыі, жыцця герояў.

**— Зразумела. А пасля Скарыны ты тут жа перанёсся ў іншую эпоху...**

— Так. Потым быў "Бацька". Памятаю, нашу здымачную групу сабралі ў Віцебску. Было шмат партызанскіх камандзіраў, якія ведалі Мікалая Шмырова. Яны нам столькі раскалі пра партызанскае жыццё, што матэрыялу хапіла б не на адзін фільм. Словам, наступны год мы пражылі ў абстаноўцы "партызанскага лагера". А ў хуткім часе я апынуўся ў сучасным Наваполацку, дзе Дабралюбаў здымаў сваю "Вуліцу без канца". Вось так даводзіцца вандраваць у часе...

**— Ці існуе сёння такое паняцце, як "беларускае кіно"?**

— Вядома ж, існуе. Нягледзячы на цяжкія фінансавыя і матэрыяльна-тэхнічныя праблемы мы робім тры-чатыры карціны на год. Вядома, гэта няшмат. Але паглядзі на нашых суседзяў. Кінастудыя імя Даўжэнкі практычна не працуе, "Ленфільм" — у заняпадзе, на "Масфільме" і кінастудыях Прыбалтыкі — не лепш...

**— Я чуў, што па замове ГРТ на "Беларусьфільме" здымаецца нейкі серыял?**

— Так. Дзмітрый Астрахан за чатыры месяцы зняў дзесяць серый "Залы чакання": я — мастак-пастаноўшчык. Чаму ў нас? Адказ просты: тут танней, чым у Маскве...

**— Што ў бліжэйшай перспектыве чакае вашага брата — мастака кіно? Маладога ж папаўнення на кінастудыі даўно няма. Між тым старэйшае пакаленне паступова адыходзіць: пайшлі з жыцця Яўген Ганкін, Вячаслаў Кубараў, Юрый Альбіцкі. На пенсіі Яўген Ігнацьеў і Уладзімір Белавусаў. З сярэдняга пакалення засталіся па сутнасці чацвёра: Аляксандр Чартовіч, Алім Мацвяйчук, Ігар Тапілін і Аляксандр Верашчагін...**

— У свой час Тураў стварыў у Беларускай акадэміі мастацтваў майстэрню, так бы мовіць, маленькі "ВГИК". Пяць гадоў таму ён набраў і першых студэнтаў — будучых мастакоў кіно. На кафедры жывапісу гэты курс з чатырох чалавек вёў Валерый Назараў. Не так даўно ён паехаў у Расію і мяне папрасілі давесці студэнтаў да дыплома... Я перакананы, Наталля Навенка, Аксана Усеня, Ігар Хруцкі, Кірыл Блахін — годнае папаўненне ў наш нацыянальны кінематограф.


Эскіз да фільма "Ветразі майго дзяцінства".

**— Чым ты займаешся зараз, акрамя творчасці і педагогікі?**

— Дырэкцыяй кінастудыі я прызначаны часова мастаком экспазіцыі Музея кіно, які ствараецца ў Мінску.

**— Ты чалавек шчаслівы?**


Рабочы момант здымак фільма "Час выбраў нас" (злева – направа) Міхаіл Пташук, Уладзімір Дзяменцьеў і Віталь Мікалаеў.

— Хутчэй за ўсё — так. Сваёй прафесіяй я ганаруся. Кінематографу я аддаў амаль сорак гадоў жыцця, і для мяне кожны год работы ў кіно быў вельмі цікавым і памятным. Я спасцігаў свет. І спасцігаў не павярхоўна, як турыст, а глыбінна. Так, я шчаслівы...

**З заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР Уладзімірам Дзяменцьевым размаўляў Барыс КРЭПАК**

# Multiplicato —

сінтэтычнае мастацтва, у аснове якога ляжыць паслядоўны шэраг спецыяльна створаных і "ажываючых" на экране маляванак і аб'ёмна-лялечных вобразаў. Цяпер зрэдку ўзгадваюць тэрмін "мультыплікацыя". Існуе самастойны жанр кінематаграфіі — анімацыйнае кіно, якое на Беларусі лічыцца самым маладым. Толькі не ўсё "молодо-зелено". Майстры анімацыйнага кінематографа краіны адразу здабылі славу ў свеце кіно, хаця прэм'еры іх стужак дагэтуль падаюцца без фуршэтаў і святочных помпаў. Гэтая паласа — прэзентацыя твораў вядучых мастакоў-аніматараў Беларусі: Ігара Волчака і Уладзіміра Пяткевіча. Каманда "К" памятае фільмы свайго дзяцінства і любіць Вас!













# ВЯНЧАННЕ

***Калі нехта кажа пра вянчанне, я адразу думаю аб нечым прыгожым і сакральным. Слова вянчанне асацыіруецца ў мяне з жаніхом і нявестай, свечкамі і каронамі, царквой і святаром, белымі конямі і бразготкамі, і, чамусьці, са снежным марозным днём. Магчыма таму, што сняжынкі нагадваюць убранне маладой, бо першае і другое, як чароўнае срэбра. Памятаю, што некалі, у школьныя гады, я вельмі хацеў завітаць у царкву і распытаць святара пра вянчанне. Калі пра гэта даведалася выкладчыца матэматыкі, тады ў "часы піянерыі" мае памкненні выклікалі страшэннае абурэнне. Мне паабяцалі, што калі я завітаю ў храм, дык мяне абавязкова выключаць з піянераў. Я спалохаўся, бо яшчэ шчыра верыў у многія ідэалы камунізму. І ніхто з маіх знаёмых і сяброў, акрамя маці, мяне не зразумеў тады. Я паспрабаваў ім распавесці пра цуд вянчання, аб якім ведаў па кнігах і кінастужках. На шчасце, часы змяніліся, і цяпер нікому не забараняецца хадзіць у царкву або ў касцёл, або ў мячэць...***

***Цяпер многія мае сябры вянчаюцца. Маё ўласнае меркаванне — трэба верыць у нешта светлае і добрае і паважаць тысячагадовыя традыцыі. Мая дзіцячая мара спраўдзілася, бо нядаўна я патрапіў на вянчанне свайго сябра — паэта Усевалада Гарачкі. Таямнічы абрад адбываўся ў прыгожым мястэчку Сноў Мінскай вобласці, у маленькай царквушцы...***

***На мінулым тыдні я завітаў у Петра-Паўлаўскі сабор, дзе размаўляў з айцом Аляксеем Клімавым пра сям'ю і вянчанне.***



**— Айцец Аляксей, навошта патрэбна вянчанне?**

— Мы заўсёды да нечага імкнемся, але нас заўсёды нешта абмяжоўвае. Некаторыя спрабуюць сябе пераканаць, што ўсе непрыемнасці — ад недахопу часу. На самой жа справе нам не хапае... любові. Наш дыскамфорт — не з-за грошай ці бытавых умоў. Нам хочацца шчасця, нейкай утульнасці. Людзі часта думаюць, што гэта прыходзіць праз матэрыяльныя рэчы. Але ж і багатыя людзі даволі часта бываюць няшчаснымі. Між іншым, кожны чалавек хоць аднойчы адчуў шчасце ад кахання. Гэта надзвычайны стан. Нездарма ж у народзе кажуць, што каханню ўсе ўзросты пакорныя. І ў будане бывае рай, калі душу чалавека пранізвае нешта нябеснае. Каханне дорыць чалавеку крылы. Свет тады бачны праз ружовыя акуляры. Існуючае зло не ўспрымаецца. Дык вось, недахоп кахання і прыводзіць да непаразумення паміж людзьмі. Гасподзь Ісус Хрыстос сказаў: "прынясу вам новую запаведзь", і ён даў нам новы закон. Трэба не проста верыць у Бога, прызнаваць нейкую найвышэйшую справядлівасць. І гэтак часам людзі вераць. Але ж гэта яшчэ не дасканаласць. Саюз любові з Богам і саюз любові чалавека з чалавекам праяўляецца максімальна ў сям'і. Зрэдчас мы гаворым: мужчынскі пол і жаночы пол. Мы не задумваемся, калі вымаўляем слова: "пол". А калі нехта скажа:- "Палова яблыка і палова яблыка", адразу стане зразумелым, што палова — гэта нешта не цэласнае. Каб атрымаць цэласнасць, трэба злучыцца. У гэтай еднасці мы можам адшукаць тое, чаго не маем паасобку, — адзінства ў саюзе і каханні. Гасподзь благаслаўляе гэты саюз, і менавіта ў адносінах паміж мужчынам і жанчынай адбываецца вялікі цуд — нараджаюцца дзеці. На жаль, за апошнія гады статыстыка Мінска і многіх іншых гарадоў сведчыць, што кожны трэці шлюб распадаецца. Таму заўсёды трэба думаць пра шчасце, пра яго няўстойлівасць. Калі я бачу вяселлі, дык заўсёды радуюся. Бо ўзгадваю сябе і сваё каханне. Але ж як у песні спяваецца: "Гэта радасць са слязамі на вачах". Статыстыка рэч упартая. Хтосьці ўжо праз год кажа: "Мы памыліліся — не можам жыць разам". Куды падзелася гэтае каханне? Хто замяніў яго на нянавісць? З гэтага можна заключыць, што чалавеку не пад сілу рэалізаваць свае жаданні. Кожны кажа, што лепш жыць у любві, чым у нянавісці. Для гэтага і патрэбная дапамога з неба. Раней, у старажытнасці, гэта разумелі. Гасподзь Бог дае блаславенне на жыццё ў любові, на тое, каб у людзей нарадзіліся добрыя дзеці.

**— У вас ёсць статыстыка, колькі распадаецца сем'яў, што вянчаліся?**

— На жаль, у нас у саборы няма. Калі мы вянчаем, дык рэгіструем гэткую падзею ў кнізе. А вось калі людзі разводзяцца, яны даволі часта не прыходзяць да нас. І развянчаць просты святар не можа. Бо ануляваць шлюб пад сілу толькі епіскапу. Мабыць, Уладыка і мае гэткую сумную статыстыку. Развянчанне — гэта ўжо грэх. Вось тут царкоўная пазіцыя істотна адрозніваецца ад дзяржаўнай. Дзяржава дазваляе жаніцца і разводзіцца колькі заўгодна. З пункта гледжання дзяржавы гэта ўласная справа грамадзян. А царква лічыць гэта грахом. Бываюць выпадкі, калі мы вянчаем і другі раз. Але тады зусім іншая служба, якая называецца — "овторобрачно". Тады чытаюцца многія пакаянныя малітвы — каб Гасподзь прабачыў жаніха і нявесту і падарыў ім яшчэ шанц. Часам царква дазваляе і трэці шлюб. А ў чацвёрты раз — мы кажам: " Выбачайце, гэта ўжо будзе без царкоўнага блаславення".

**— Як вы ставіцеся да таго, што разводзяцца на дзяржаўным узроўні, а на царкоўным не?**

— Часам гэта можна вітаць. Бо тады застаецца надзея, што шлюб захаваецца. Але ж, калі гэтыя людзі заводзяць новыя сем'і... Тады, канечне, трэба развесціся і на царкоўным узроўні. Бо інакш будзе ўжо пралюбадзейства. Вось калі яны проста жывуць асобна і не заводзяць новых сем'яў, заўсёды застаецца надзея. Вельмі часта менавіта шлюб перад Богам і выратоўвае сям'ю. Для многіх істотная думка: "Мы ж злучаны перад Богам".

**— А калі нехта на вянчанні, з маладых ці са сведкаў, страчвае прытомнасць?**

— Гэта не значыць, што чалавек упаў з-за боскага пакарання. Могуць быць чыста фізічныя фактары — хваляванне, напружанне ўсіх пачуццяў. Можа ўплываць і незвычайнае абсталяванне і асаблівасці паветра — палаючыя свечкі, пах ладану. Канечне, мы разумеем, што царкоўнае таінства — яно вялікае ў вачах боскіх і таму благаслаўляецца. Ды гэта мярзотна і непрыемна злой сіле. Яна ж таксама існуе. Калі Гасподзь стварае, дык д'ябал разбурае. Д'ябал заўсёды стараецца сапсаваць свята. Можа, сапраўды, адчуваючы слабасць нейкага звяна, спрабуе неяк атакаваць. І чалавек можа гэта на сабе адчуць. Бывае і на хрышчэнні некаторым становіцца дрэнна. Калі мы заўважаем, што некаму на вянчанні становіцца блага, мы прыносім крэсла і супакойваем: "Нічога страшнага. Вы можаце і седзячы працягваць маліцца".

**— Ці нармальна, што сёння шлюб рэгіструе дзяржава і адначасова царква?**

— У гэтым няма нічога дрэннага. У дадзеным выпадку дзяржава ўзяла не толькі функцыю рэгістрацыі шлюбу, але, адначасова, і нагляд за выкананнем абавязкаў. Напрыклад, муж выгнаў жонку... Дзяржава можа запатрабаваць ад яго сродкі на забеспячэнне кінутых жонкі і дзяцей. Тут царква цалкам падтрымлівае дзяржаву. Ва ўсім, дзе няма граху, мы ўсяляк падпарадкоўваемся дзяржаве і заклікаем усіх грамадзян паважаць законы. Некаторыя кажуць, што яны не будуць рэгістраваць шлюб у Палацы шлюбаў, а толькі абвянчаюцца. Тады мы заўсёды ўзгадваем словы боскія: "Воздай Богу богово, а кесарю кесарево". Калі ёсць валадар, дык трэба аказваць яму павагу. У старажытнасці дзяржава даверала царкве рэгістрацыю, і таму яна была толькі царкоўная. Але ж на аснове царкоўных дакументаў дзяржава таксама магла неяк уздзейнічаць на грамадзян.

**— Дзяржава рэгіструе шлюб і не звяртае ўвагі на веру чалавека. Шлюб можа быць паміж католікам і праваслаўным, крышнаітам і мусульманінам, веруючым і атэістам...**

— На жаль — гэта праблема. Царква сцвярджае, што мы не можам адносіцца да сваёй веры без належнай павагі. Гэта цэнтр усяго светапогляду, усё астатняе потым. Таму ў жадаючых абвянчацца мы заўсёды пытаемся, якой яны веры. Царква вянчае праваслаўных з католікамі, гэты шлюб можа быць асвячоны ў праваслаўнай царкве, але пры адной умове. Каб чалавек — муж ці жонка, якія належаць да іншай канфесіі, не перашкаджалі выхаванню дзяцей у праваслаўі. Яшчэ патрабуецца пісьмовая згода. На жаль, шмат выпадкаў, калі яна парушаецца.

Перад вянчаннем маладых, у кожным выпадку мы праводзім асобнае даследаванне — ці прымаюць яны адказнае рашэнне, ці няма абавязкаў перад іншымі і гэтак далей.

**— Перад вянчаннем маладыя заўсёды спавядаюцца?**

— Ім гэта прапаноўваецца. Часам нехта робіць гэта дзеля традыцыі. Скажам — фармальна. Але праблема ў тым, што людзі яднаюцца між сабой сваім жыццём. Напрыклад, возьмем дзве шклянкі, у якіх розныя фарбы, і сальем іх у адну шклянку. Колеры перамяшаюцца. Атрымаецца нешта новае. У кожным чалавеку свае грахі, дык навошта несці ў сям'ю гэты бруд?

**— Тыя, хто вянчаюцца, заўсёды задаволены абрадам?**

— Часта некаторыя маладыя скардзяцца, што вянчанне цягнецца вельмі доўга — каля гадзіны. Дык у малітвах пералічваецца ўсё, што дасылаецца Госпадам у гэтую сям'ю.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Марыі ХАРЧАНКА**

## З БОГАМ!



14 кастрычніка па праспекце Машэрава, 82 адбыўся малебен і закладка краевугольнага каменя пад будаўніцтва храма Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Як сведчыць легенда, гэта месца адзначана цудоўным з'яўленнем абраза Прасвятой Багародзіцы 1 кастрычніка 1612 года. З тых часоў мінула амаль 400 гадоў, але і цяпер тутэйшыя мясціны шануюцца мясцовымі жыхарамі і шматлікімі паломнікамі. І нездарма жыве чалавечая памяць аб даўнім цудзе, бо тут спявае крыніца — святая вада. З 1991 года каля яе вядуцца богаслужэнні. Побач быў пастаўлены часовы будынак храма.




Сёлета адбываецца аднаўленне царквы, разбуранай у 1936 годзе. Тады ўлады паспрабавалі знішчыць і крыніцу. Але, дзякуй Богу, у іх нічога не атрымалася.

Перад людзьмі выступіў настаяцель Свята-Духавага Кафедральнага сабора, протаіерэй Генадзь Дзічкоўскі, які і заклаў у фундамент будучага храма капсулу з граматай. У дакуменце захавана інфармацыя аб даце распачатага будаўніцтва. Хтосьці з людзей усклаў ля святыні кветкі і яблыкі. Будаўнікі з "Белтрансбудоўлі" абавязаліся аднавіць царкву да 2000-га года.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## РЭДАКЦЫЯ АТРЫМАЛА ПАДАРУНАК НА ПАКРОВЫ...

Днямі ў рэдакцыю "К" паступіў каштоўны падарунак —750-старонкавая, багата ілюстраваная кніга "Законъ Божій" (для сям'і і школы), складзеная протаіерэем Серафімам Слабодскім і выданая закрытым акцыянерным таварыствам "Праваслаўная ініцыятыва" з благаслаўлення мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.

Кніга ўключае ў сябе дзве прадмовы — Уладыкі Філарэта і протаіерэя Серафіма Слабодскага, і пяць частак тэкстаў, у тым ліку "Папярэднія паняцці" (пра свет, пра Бога, пра малітву, пра грэх, пра крыж, храм, святыя абразы, пра святых анёлаў і святых людзей, пра іншыя сімвалы праваслаўнай хрысціянскай веры), Стары і Новы запаветы, пра хрысціянскую веру і жыццё хрысціянскае і яго дзесяць запаветаў Закону Божага і дзевяць запаветаў асалоды; пра набажэнства праваслаўнай царквы. Напрыканцы кнігі даюцца кароткія звесткі пра асаблівасці набажэнства гадавога цыкла.

У аўтографе, пакінутым у кнізе генеральным дырэктарам ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва" В.Чартовічам, спецыяльна для "Культуры" адзначаецца: "Хай аддзячыць Вас усялітасцівы Гасподзь Сваёй літасцю за Вашую дапамогу ў выданні гэтай Святой кнігі, якая спрыяе сапраўднаму адраджэнню нашай, ратуемай Богам Айчыны!"

Мы сардэчна дзякуем ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва" за такі найкаштоўнейшы падарунак.

**"К"**

№ 41 18 — 24 кастрычніка 1997

З ПАРТЫТУРЫ ПАДЗЕЙ

# ВОПЫТЫ СЦЭНІЧНЫХ ЧЫТАННЯЎ, ці БЕГ ЗА ЧАСАМ

***Сцэнічныя чытанні сучасных нямецкіх п'ес, наладжаныя Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Інстытутам Гётэ ў Мінску, прайшлі сёлета на малой эксперыментальнай сцэне тэатра імя Я.Коласа.***

Па-першае, гэта — прапаганда нямецкай драматургіі, а праз яе — сучаснага еўрапейскага сцэнічнага мыслення, што вельмі важна для нашага тэатральнага працэсу, бо нішто немагчыма прапусціць у логіцы развіцця мастацтва, і мы павінны прайсці тыя ж этапы, што і ўся цывілізаваная Еўропа. Па-другое, такі сцэнічны варыянт, мушу сказаць, спектакля, даволі новы для нас, хаця чытанні п'ес — не спектакль у чыстым выглядзе, аднак, тым не менш, мы не можам адвергнуць падобнае відовішча як сцэнічны твор наогул. Па-трэцяе, такога роду творчасць вымагае эксперыментаў і дае вялікія для яго падставы, маю на ўвазе не толькі развіццё самой драматургіі, у большай ступені гэта тычыцца рэжысёрскай вольнасці, бо рэжысёр тут не звязаны ніякімі абавязкамі акрамя абавязку перад самім сабой, сваім талентам, нарэшце — перад сваёй творчасцю.

Безумоўна, прынцыпы размовы пра падобныя спектаклі будуць тымі ж, што і самі спектаклі: і адны і другія грэшныя сваёй непаўнатой. Аднак агульны напрамак рэжысёрскага мыслення бачны адразу, як бачна і агульная структура сцэнічнага твора; акцёрскае майстэрства і ўзровень прафесійнасці тут відавочныя, бо няма за што схавацца. Наогул падобныя эксперыменты небяспечныя, але ж прыцягальныя. Што да ацэнак, то тут неабходны той жа самы "бліц" і толькі ў разуменні агульнай канцэпцыі.

На віцебскай сцэне акцёры мінскага тэатра "Вольная сцэна" паказалі-прачыталі тры п'есы.

"Гер Пауль" паводле Т.Дорста ў пастаноўцы А.Гузія быў зусім традыцыйным спектаклем.

У старым, амаль зруйнаваным доме, прапітаным пылам, плесенню і рэшткамі колішняга мыла жывуць двое старых (М.Кучыц і Т.Мархель), на якіх забыліся ўсе на свеце. Малады нашчадак (А.Кавальчук) імкнецца выселіць старых у іншы дом, каб правесці тут перабудову і наладзіць фабрыку. Разам з ім сюды трапляюць ягоная дзяўчына Луіза (Л.Арцімовіч), магчымы суўладальнік будучага прадпрыемства Шварцбэк (Ю.Жыгімонт) і маленькая юродзівая Аніта (Л.Сідаркевіч). Пасля вельмі доўгай і маруднай размовы робіцца зразумелым, што выселіць старых не ўдасца.

Пастаноўка гэтая вырашана сродкамі бытавога тэатра з элементамі псіхалагічнага, з імкненнем распрацаваць характары персанажаў і надаць ім логіку паўсядзённых паводзін, з мэтай выклікаць шкадаванне да свайго асабістага будучага і разумення, што прагрэс прамысловасці і грамадства не нясе з сабой ніякага шчасця і чалавечнасці. Думка зусім не банальная, калі датычыцца цябе самога. Дый не банальная ў дачыненні да іншых таксама.

Нават са сцэнічнага відовішча, якое цягнецца немагчыма доўга, становіцца неяк падспудна зразумелым, што сэнс п'есы ляжыць недзе па-за спектаклем і па-за сцэнай, і справа тут зусім не ў спачуванні старым людзям, якіх выганяюць з хаты. Загадка драматургіі ў тым, што структура п'есы па меншай меры падвоеная: зусім рэальныя маладыя людзі трапляюць тут не ў пакоі старых, а ў ірэальную, містычную прастору-час, дзе двое старых з'яўляюцца нібы здані, прывіды, ажыўшыя элементы самой гэтай містычнай прасторы, штосьці накшталт полтэргейста. Патрапіўшы ў гэтую клейкую, вязкую субстанцыю, маладыя персанажы аказваюцца нібыта ў сетцы, і не ўсе ў стане вызваліцца з яе. Так, малады нашчадак Хельм застаецца тут назаўсёды... Быццам бы ў горадзе Зэро... Час спыняецца, думка тармозіцца, ірэальнасць небыцця запаўняе розум...

Для ажыццяўлення сцэнічнага варыянта такой структуры немагчыма скарыстаць сродкі традыцыйнага бытавога тэатра.

П'еса Г.Ахтэрнбуша "Бот і яго насок" (пастаноўка Т.Сулімавай) у выкананні акцёраў А.Ката (Герберт) і Л.Сідаркевіч (Фані) уразіла прафесійным рэжысёрска-акцёрскім валоданнем пастановачнымі асаблівасцямі абсурдысцкага тэатра, тым, што малады рэжысёр свабодна адчувае сябе ў плыні гэтага сцэнічнага напрамку, зусім спакойна і лёгка ажыццяўляе перыпетыі абсурдысцкай драмы, праз кантрапункт выводзіць свой сцэнічны твор да высокай і трагічнай ноты ў фінале. Тое ж самае можна сказаць пра акцёраў, якія "трымаюць" двайны сэнс пастаноўкі: адначасова гратэск-спалучэнне вострапрачэрчанай пластыкі, нелагічна-нязвязнага тэксту і глыбіннай псіхалагічнай распрацаванасці вобразаў з іх лёсамі, драмай, прыцягненнем і процістаяннем.

У п'есе разгортваецца дзіўная гісторыя кахання ўжо немаладой пары, поўная вострага пачуцця: "два чалавекі — адно адчуванне".

"Альпійскае ззянне" паводле П.Турыні ў пастаноўцы В.Мазынскага і выкананні Т.Мархель (Жасміна), А.Кавальчука (Сляпы) і І.Сігова (Хлопец) — спектакль традыцыйны, з разгорнутымі характарамі, псіхалагізмам вобразаў і сітуацый. І з падсвядомым у чалавеку, якое не хаваецца, а, наадварот, дамінуе ў тэксце і ў паказе.

Галоўны герой п'есы — сляпы, яму неабходная жанчына. 40 гадоў ён жыве ў адрыве ад людзей, высока ў гарах. Да яго прыязджае вопытная патаскуха, якая чытае яму ўрыўкі з Шэкспіра. Абодва яны на працягу дзеяння шмат разоў ператвараюцца ў іншыя асобы з іншымі біяграфіямі, якія нельга праверыць і ўпэўніцца ці яны праўдзівыя. Усё, што яны гавораць, можа быць і праўдай і выдумкай адначасова. І глядач не можа быць упэўненым ні ў чым. Агульная містыфікацыя... Як і свет вакол нас, што зусім не такі, як мы бачым і адчуваем яго.

Акцёры "Вольнай сцэны" добра валодаюць характарнасцю, і ім нескладана "расквеціць" сітуацыю.

Пастаноўшчык тут не ідзе па шляху драматурга ў пошуках імітацыі жыцця (у п'есе абодва персанажы — хутчэй набор масак, сацыяльных тыпаў ці нават пярэваратняў у дачыненні да зменлівай сітуацыі, дзе немагчыма знайсці сапраўдны твар і сапраўдную сутнасць). Рэжысёр пераводзіць дзеянне да больш рэалістычных падзей, знаходзіць сюжэтную логіку для герояў, абапіраючыся на традыцыйнае глядацкае ўспрыняцце.

Сцэнічныя чытанні ў Віцебску на правах гаспадароў пачынаў Коласаўскі тэатр. Яго кіраўнік Віталь Баркоўскі зрабіў сцэнічную версію п'есы М.Чокэ "Пісьменныя" ("Адукаваныя") з акцёрамі А.Шарапчанкай, В.Куляшовай, Г.Лойкам, Б.Сяўко, С.Мядзведзевым, Т.Скварцовай, А.Лабанком, Н.Левашовай, Т.Шашкінай, Л.Антосевай, В.Дашкевічам. У п'есе маладая літаратарка атрымлівае прэмію. Але вышэйшы свет горада не прымае гэтую парвеню, хаця старшыня журы ўсяляк пратэжыруе ёй. Аднак з'яўляецца сучасны малады цынік, які мяняе светапогляды лаўрэаткі, пераключаючы яе інтарэсы на больш рэалістычнае жыццё: уводзячы яе ў свет шоу-бізнесу. Старшыня журы з адчаю, што такім чынам гіне сапраўдная культура, памірае ў псіхушцы. А малады цынік хутка сам атрымлівае чарговую прэмію.

В.Баркоўскі як рэжысёр добра вядомы сваімі сцэнічнымі эксперыментамі. Менавіта ён, як мне здаецца, увеў у беларускі тэатр постмадэрнізм з яго шчыльнай увагай да сколачнага ўнутранага свету чалавека канца XX стагоддзя.

У паказе нямецкай п'есы В.Баркоўскі ідзе шляхам чыстага мадэрнізму, дзе чароўная, нават вытанчаная мастацкая форма пастаноўкі прэваліруе над усім астатнім. Сцэнаграфія складаецца з падвойных вялізных лістоў шкла, умацаваных на чорных кубах вертыкальна і гарызантальна, што робіць сцэну нібыта разрэзанай геаметрычнымі плоскасцямі, і ў той жа час і шкло, і чорныя кубы з'яўляюцца ігральнымі рэчамі ў эпізодах спектакля.

Акцёры, якіх пастаноўшчык, нібыта ілюзіяніст Дэвід Коперфілд, прымушае да пластычных трукаў, аказваюцца ў сітуацыі, дзе ім трэба з ліста чытаць тэкст (умова паказу), прафесійна існаваць у зададзенай складанай прасторы сцэны і ў гэтых нечаканых сцэнаграфічных абставінах іграць праўду перажыванняў герояў у абсурдысцкай сітуацыі п'есы. З дзвюх рэпетыцый коласаўцы ўвайшлі ў авангардна-геаметрычныя ўмовы пастаноўкі і нечакана (у тэатры эксперыментуюць не вельмі часта, тут больш бытавы напрамак мыслення) паказалі сваё валоданне вострым гратэскам і разуменне такой сцэнічнай пластыкі, як спосабу лепкі вобраза.

У мадэрн-тэатры сэнс спектакля — гэта сама эстэтыка, форма, дзе пачуццё высякаецца нават з рытму. Акцёры тут дакладна "пражываюць" мізансцэну і вольныя імправізаваць. Тут сапраўды пануе ігра як спосаб тэатральнага і чалавечага існавання.

Наогул увесь гэты графічны, чорна-белы спектакль уяўляе сабой вялізную метафару, якая складзена са шматлікіх малюнкаў-эпізодаў.

Усе, хто прымаў удзел у Сцэнічных чытаннях сучасных нямецкіх п'ес, і тыя, хто глядзеў іх, і тыя, хто абмяркоўваў убачанае, на маю думку, засталіся задаволенымі гэтым міні-фестывалем. Ён даў штуршок для роздуму драматургам. Дотык на нямецкай драматургіі стаў і адчуваннем месца беларускага тэатра як мастацкага элемента агульнаеўрапейскага працэсу. Уплыў еўрапейскага сучаснага мыслення — гэта не выпадкова занесены да нас незразумелы вірус новых сцэнічных форм, а хутчэй — падстава для асэнсавання таго, што наш тэатр павінен уваходзіць у зону цывілізацыі. А гэта значыць, ён павінен (менавіта павінен) прайсці ўсе тыя этапы эстэтычнага пазнання, мастацкага асваення свету, што з'яўляюцца заканамернымі, абавязковымі, як законы фізікі ці матэматыкі, якія праходзяць на шляху адукацыі ў сферах навукі. Мы не даганяем, не даганяем, не вылучаемся і не павінны пакутаваць на комплексы, мы павінны асвойваць і спасцігаць. Што і робім не без поспеху!

**Таццяна КАТОВІЧ**



Рамантычная актрыса Людміла Волкава *(на здымку)* на сцэне Гродзенскага тэатра ўвасобіла не адзін яркі жаночы характар...

**Фота Аляксандра КОСАРСКАГА**

## ВІНШУЕМ!

Гродзенскаму абласному драматычнаму тэатру споўнілася 50 гадоў! У рамках юбілейных урачыстасцяў гродзенцы ўбачаць сцэнічны твор Мікалая Пінігіна "Ідылія" паводле п'есы В.Дуніна-Марцінкевіча. Міністэрства культуры РБ у сваю чаргу выступіла ініцыятарам правядзення навуковай канферэнцыі "Сучасная рэжысура ў тэатральным мастацтве Беларусі". У ліку яе ўдзельнікаў — вядомыя крытыкі і рэжысёры замежжа.

## АНГАЖЭМЕНТ

З 17 па 26 кастрычніка ў памяшканні мінскага драматычнага тэатра "Дзе-Я?" праходзяць гастролі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. Творчы калектыў прэзентуе вядомыя пастаноўкі спектакляў: "Тарцюф" Мальера, "Зайка-зазнайка" паводле твораў С.Міхалкова, "Казка пра Скамароха і цара Гароха", "Сніўся мне сад у падвянечным уборы" — жарты А.Чэхава, "Кватэра дажджу" — п'еса Н.Садур і К.Гарастыса.

Спадзяёмся, што распачаты тэатральны сезон падрыхтаваў у сталіцы шмат прыемных сюрпрызаў для гледачоў.

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)



інструмента, і магчымасці выканання, а далей — няма куды, інструмент не дазваляе. Адзіная фабрыка ў Барысаве "гоніць" стандарт, і няма ніводнага майстра, які б усур'ёз заняўся цымбаламі.

**— Значыць, асноўная праблема — інструмент?**

— Так, але гэтая тэма — велізарная. Інструмент трэба ўдасканальваць, а паводле якіх параметраў? Існуюць параметры гукавых якасцяў, дыяпазону, але ёсць і такі параметр — сваё аблічча, якое важна не згубіць. Можна ўдасканаліць нашы цымбалы да ўзроўню венгерскіх, але гэта — не тое, бо ўсё ж такі ў беларускага інструмента ёсць сваё гучанне.

**— Але ж якасць нашых інструментаў не спрыяе творчасці?**



# ПАДАРОЖЖА З ЦЫМБАЛАМІ,

## альбо Што рабіць з сусветным узроўнем?

### КАЛІ Б СТРУНЫ МАГЛІ ГАВАРЫЦЬ...

... Ох, колькі б роспачы і безвыходнасці вылілі б яны недасведчанаму, які паверыў у жыццярадаснасць беларускіх канцэртаў-шыльдаў! І калі струны юных выканананаўцаў яшчэ недастаткова аблітыя гэтымі горкімі слязамі, дык інструмент мэтра беларускіх цымбал, педагога, які ўзгадаваў шмат талентаў, прафесара Беларускай акадэміі музыкі і сябра Праўлення Сусветнай Асацыяцыі цымбалістаў Я.Гладкова мог бы распавесці шмат пра што. Але цуд пакуль што не адбыўся, і распавядае сам Яўген Пятровіч:

— Наша школа настолькі высокая, што яна перавысіла





магчымасці інструмента. Школа, безумоўна, будзе развівацца далей, таму што ўжо выраслі цудоўныя вучні, якія пачынаюць пераўзыходзіць сваіх педагогаў, а інструмент застаўся нязменным з часоў каменнага веку. Якія ж наступствы гэтага? Кампазітары ў свой час здолелі знайсці рашэнне, улічваючы і магчымасці

— Што ўжо дакладна вельмі кепска ў беларускіх цымбалах, дык гэта — якасць драўніны: ці здольная дэка вібрыраваць, калі яна такая ж "тупая", як пісьмовы стол? А тут жа ўся драўніна павіннаператвараць рухі ў якасць гучання. І яшчэ — канструкцыя. Я ніводнага разу не бачыў, каб у кітайцаў, да прыкладу, ірваліся струны, у нас жа — пастаянна. У іх гук адкрыты, у нас — прыдушаны, мы чуем толькі грукат. Ёсць яшчэ канструкцыя кійкоў, але гэта ўжо другаснае.

**— Дзе ж выйсце?**

— Хаця я і не спецыяліст у пытаннях тэхналогіі, але ў мяне была ідэя выкарыстоўваць глушыцелі, бо мы ўжо не заўважаем рэшткавага гуку пасля ўдару, — прызвычаіліся, а з гэтым таксама трэба было б неяк змагацца. Педаль, што зачыняе адразу ўвесь інструмент, неперспектыўная, бо падчас хуткіх твораў чуваць, як яна грукае. Я ў свой час прыдумаў глушыцель на фотаэлементах, што маглі б уздзейнічаць на асобныя струны, але электроніка каштуе вельмі дорага...

**— Калі не кранаць праблем канструкцыі інструмента і звярнуцца да стылю выканання, дык можна ўбачыць, што кожны з замежных музыкантаў — асоба, шмат хто імправізуе, а нашы таленавітыя дзяўчынкі нагадваюць інкубатар.**

— Так, у нас цалкам страчаная традыцыя імправізацыі. Але ж чалавек выказвае сябе ў музыцы, якую стварае сам. Безумоўна, тут ёсць і наша віна, таму што мы працягваем рыхтаваць выканаўцаў, якія іграюць адны і тыя самыя ноты. Усё гэта мне ўжо надакучыла. Але тут ёсць і станоўчы бок — усё гэта адбіваецца на якасці выканання, на завершанасці мастацкай прапрацоўкі.

**— Вы — сябар Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні IV Сусветнага Кангрэса цымбалістаў. Чаму ён прайшоў не ў Мінску?**

— Гэта звязана з каласальнымі выдаткамі — і тэхнічнымі, і матэрыяльнымі. Перыферыя заўсёды больш ахвотна бярэцца за такія маштабныя мерапрыемствы. Ды і момантаў, што адцягваюць увагу, тут меней: у сталіцы замежныя госці бегалі



б па тэатрах і менш наведвалі б нашыя канцэрты.

**— У чым адрознасць гэтага Кангрэса ад папярэдняга?**

— Тут ён быў больш прадстаўнічым, бо цяпер у Сусветную Асацыяцыю цымбалістаў уваходзяць 24 краіны.

**— А якім чынам Кангрэс наогул адбыўся на Беларусі?**

— Гэта заслуга Саюза музычных дзеячаў, у прыватнасці, Т.Курылы — намесніка старшыні Саюза. Некалькі гадоў таму ён даведаўся пра Асацыяцыю, звязаўся з Вікторыяй Херэнчар, і мяне паслалі на II Кангрэс у Чэхію, часткова нават аплаціўшы паездку (удзел у Кангрэсе аплачваецца за свой кошт, да таго ж трэба заплаціць і ўступны ўнёсак). Прынялі мяне ўзнёсла, а потым мы запрасілі Вікторыю сюды, і Міністэрства культуры дало "дабро" на правядзенне IV Кангрэса на Беларусі, а Магілёў дадаў: у нас.

### ІДЗІ І ПАРАЗВАЖАЙ

Зазвычай пасля гэтага сказа вучань, якога выклікалі да дырэктара, вылятае з ягонага кабінета і з палёгкай уздыхае: фу, пранесла. Гэтаксама і мы пасля заканчэння Кангрэса: пранесла. Усё. Міма. Грошы, укладзеныя часткова Міністэрствам культуры Беларусі, часткова — магілёўскімі ўладамі, спрацавалі, службы, якія прымалі гасцей, годна выканалі свой абавязак і ўздыхнулі, нарэшце, вольна. Карысць ад падзеі была адчута, відавочна, замежнымі гасцямі, якія так шмат новага даведаліся адзін пра аднаго, пра нас і — зрабілі свае высновы (няма сумненняў: шмат што з нашага вопыту яны выкарыстаюць), а таксама і магілёўскай публікай, якая пасля кожнага канцэрта збіралася на сцэне, разглядаючы і фатаграфуючы незнаёмыя інструменты (карысці, можа, і ніякай, але ўнукам распавесці цікава будзе).

А тое, дзеля чаго варта было наладжваць Кангрэс менавіта на Беларусі — штуршка для развіцця нашага цымбальнага мастацтва, — не адбылося. Бо штурхаць няма каму: ні крытыкаў-тэарэтыкаў, ні майстроў па вырабе інструментаў, ні кампазітараў (акрамя У.Кур'яна), ні масавага наплыву прэсы, ні вялікай колькасці сталічных педагогаў тут не было. Каму могуць паскардзіцца выканальніцы, якія "ўдыхнулі" так многа новай інфармацыі?

"Здароўя і цымбал" нам! Ну, са здароўем мы больш ці менш паспяхова разбярэмся самастойна, а вось хто б на інструмент расшчодрыўся?

**Ганна АЛАДАВА**
**Фота Алега ФАЙНІЦКАГА**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4291.

Падпісана Ў свет 15.10.97.у 21.30.
Замова 6138

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**